

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 483 Красавік 2003 г. Год выданьня 53

# РАДА
## БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
### ПРЭЗЫДЫЮМ



### ЗВАРОТ да беларускага грамадзтва з нагоды 85-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі

Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам і юбілеем - 85-мі ўгодкамі абвешчаньня пасьля даўгога пэрыяду паняволеньня нашага краю расейскай імпэрыяй незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Жадаю кожнаму з Вас асабістага шчасьця й задавальненьня з жыцьця. Але ведаю сама па сабе: сапраўднае шчасьце мы адчуем толькі ў сваёй незалежнай і дэмакратычнай дзяржаве.

Дык што-ж: трэба працягваць змаганьне. І таму жадаю Вам патрэбных у гэтым змаганьні мужнасьці й вытрываласьці, гордасьці нашай спадчынай ды веры ня толькі ў свае ўласныя сілы, але і ў сілы ўсяго беларускага народу.

Хацела-б адначасна падзяліцца думкамі пра нашую найбольшую патрэбу - еднасьць. Трагедыя нашага народу - як на Бацькаўшчыне, так і на чужыне - гэта адсутнасьць між намі адзінства й салідарнасьці. Думаю, што выплывае гэта з нашага скрайняга індывідуалізму. Дзіўны парадокс беларускае натуры: беларус памяркоўны ў дачыненьні да чужых, але часта вельмі непамяркоўны ў дачыненьні да сваіх. На дзіва, гістарычна гэта не ператварылася ў нецалерантнасьць нашага народу.

Затое на кожным кроку бачу, да чаго вядзе наша міжсобная непамяркоўнасьць. Divide et impera - казалі рымляне: падзяляй і пануй. Гэта зразумелі ўсе каланізатары, усе імпэрыі. Перад тым, як пачаць сьціраць гістарычную памяць народу, перад тым як адбіраць у яго рознымі спосабамі ягоныя каштоўнасьці, каб лягчэй было яго паняволіць, яго дзеляць. Нас дзялілі і адны і другія шмат разоў. Дзялілі нашую тэрыторыю, дзялілі нас на ўсходніх і заходніх, на праваслаўных і каталікоў, на працоўных і паноў, і г. д., і г. д. Толькі з адною мэтаю: каб лягчэй было нас падпарадкаваць ды сьцерці як нацыю з паверхні зямлі.

Сёньня заклікаю кожнага палітычнага ды арганізацыйнага лідэра: яднайце людзей вакол ідэалаў 25-га Сакавіка! І яднайцеся між сабою! Незалежнасьці паасобку мы не абаронім. Рэжыму паасобку ня зьменім. Дабрабыту нашага народу паасобку мы не дасягнем.

Адзін вельмі дарагі мне сьвятар прыгадаў аднойчы народную мудрасьць - прыклад веніка, які лёгка паламаць галінка па галінцы, а які так моцны, калі зьвязаны. Нядаўна пацьвердзілі гэта падзеі ў былой Югаславіі. Народ пазбыўся дыктатуры толькі тады, калі зьяднаўся ды выйшаў сотнямі тысяч на вуліцы Белграду. Прыклад гэты, магчыма, цяжка ажыцьцявіць у Беларусі ў гэтым момантце, але калі хочам выжыць як нацыя, мусім цяпер ужо шукаць адзінства. Мы выратуем наш край і здабудзем той лад жыцьця, на які мы заслугоўваем, толькі разам - зьяднаныя.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла, Старшыня Рады БНР*

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**ўрачыстага сходу, арганізаванага Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ў Нью-Ёрку 16 сакавіка 2003 г. ў гонар 85 угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі**

1. Мы заяўляем: беларускі народ, усе грамадзяне Беларусі маюць права на сваю незалежную, суверэнную, дэмакратычную дзяржаву.
2. Мы заклікаем усіх, каму дарагая нашая Бацькаўшчына-Беларусь, бараніць гэтае сьвятое права на незалежнасьць і свабоду сваёй краіны, кансалідаваць дзеля гэтага свае сілы.
3. Мы асуджаем ганебныя дзеяньні рэжыму Лукашэнкі, які гандлюе наезалежнасьцю Беларусі, ставіць пад пагрозу існаваньне беларускай дзяржавы, вынішчае беларускую нацыянальную культуру, перасьледуе нацыянальна сьведамых беларускіх людзей, парушае правы чалавека, у тым ліку права на свабоднае карыстаньне беларускаю моваю, і адукацыю ў гэтай мове на ўсіх узроўнях.
4. Мы выступаем супраць так званай "саюзнай дзяржавы", у якую рэжым Лукашэнкі цягне Рэспубліку Беларусь, і пратэстуем супраць распрацоўкі канстытуцыйнага акту гэтай "саюзнай дзяржавы" і зьнішчэньня беларускай нацыянальнай валюты як правакацыі рэжыму Лукашэнкі разам з шавіністычнымі коламі Расеі, скіраванай на зьнішчэньне беларускай незалежнасьці й інкарпарацыю Беларусі ў Расейскую фэдэрацыю.
5. Мы патрабуем шанаваньня правоў чалавека, спыненьня шалёнага перасьледу апазыцыйных сілаў, незалежных сродкаў масавай інфармацыі й незалежных грамадзкіх арганізацяў у Беларусі рэжымам Лукашэнкі.
6. Мы заклікаем сябраў Сэнату й Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША, усіх людзей добрай волі падтрымаць Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003, скіраваны на падтрымку беларускай дэмакратычнай апазыцыі.
7. Мы выказваем салідарнасьць са змаганьнем народу ЗША супраць міжнароднага тэрарызму, асуджаем ганебнае супрацоўніцтва рэжыму Лукашэнкі з тэрарыстычным рэжымам Садама Хусэйна ў Іраку ды іншымі рэжымамі "восі зла". Мы асуджаем намеры Расеі выкарыстаць міжнародны крызіс у сваіх імпэрыялістычных мэтах у дачыненьні да Беларусі й іншых краінаў, што вызваліліся з-пад расейска-камуністычнага панаваньня.

Мы не дамо загінуць справе, якую 85 гадоў назад пачалі нашыя папярэднікі - змагары за вольную назалежную Беларусь. Мы працягваем іхнюю справу, мы верым у нашую праўду і ў наш народ. Мы пераможам.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

# ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў НЬЮ ЁРКУ

У Нью Ёрку 25-га сакавіка прайшла дэманстрацыя пратэсту супраць зьнішчэньня рэжымам Лукашэнкі незалежнасьці Беларусі й так званай інтэграцыі з Расеяй. Перад будынкам штаб-кватэры Аб'еднаных Нацыяў на Першай Авэню на Мангэтане сабралася каля 60 чалавек, што пад бел-чырвона-белымі сьцягамі й з плякатамі, на якіх было напісана: "Мы хочам вольнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі", "Беларусь мае два няшчасьці - Лукашэнку й Чарнобыль", "Падтрымаем Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003", "Расея, не разьзяўляйся на Беларусь", "Не - інтэграцыі з Расеяй", "Прэзідэнт Буш, спыні дапамогу імпэрыялістычнай Расеі" прыцягвалі ўвагу мінакоў.

Перад прысутнымі выступіў Старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, які акрэсьліў мэты дэманстрацыі, плян яе правядзеньня, нагадаў пра 85-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, што прыпадалі на гэты дзень, і прачытаў Акт 25-га Сакавіка - Трэцюю Ўстаўную Грамату Рады БНР.

Пасьля з сваімі ўспамінамі пра дзеячоў БНР і пра важнасьць Акту 25-га Сакавіка выступіў Старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Дэманстранты скандавалі лёзунгі ў падтрымку незалежнасьці Беларусі й супраць рэжыму Лукашэнкі, раздавалі мінакам улёткі, у якіх тлумачыліся мэты й прычыны дэманстрацыі, была пададзеная інфармацыя пра Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003 у Кангрэсе ЗША і заклік падтрымаць яго.

Затым з разгорнутымі сьцягамі й плякатамі грамада дэманстрантаў вырушыла да беларускага консуляту і прадстаўніцтва Беларусі пры ААН, дзе таксама адбыўся мітынг.

Акцыя пратэсту, у гэты будні для звычайных амэрыканцаў дзень прайшла ўдала, і была ці не найбольш масавай маніфэстацыяй беларусаў у Нью Ёрку за апошнія гады.

*Віталь ЗАЙКА*




*Моладзь актыўна падтрымала акцыю пратэсту ў Нью Ёрку.*

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА Ў ЗША

## Нью Ёрк

У нядзелю 16-га сакавіка на Манхэтане ва Украінскім Доме прайшло ўрачыстае сьвяткаваньне 85-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці БНР, якое ладзіў нью ёрскі аддзел БАЗА.

Сьвяткаваньнее пачалося акадэміяй, якую вёў сп. Янка Запруднік. Напачатку прагучаў амэрыканскі гімн у выкананьні спч. Вольгі Казак, пасьля чаго з уступным словам выступіў Старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка. Затым было прачытанае прывітаньне Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвілы. Праклямацыю мэра Нью Ёрку Майкла Блумбэрга прачытаў сп. Коля Романо.

Затым з прывітаньнямі выступілі: Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, загадчык беларускага аддзелу Дзярждэпартаманту ЗША сп. Майкл Уегара, прадстаўнік Міжнароднай Лігі Правоў Чалавека, рэдактар бюлетэня Belarus Update сп. Віктар Коўл, Старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзы сп. Юрка Азарка. Былі зачытаныя лісты з прывітаньнямі ад іншых беларускіх арганізацыяў, што паступілі на адрас БАЗА. Спн. Ліна Сагановіч прачытала верш Генадзя Бураўкіна "Малітва". З музычнымі кампазыцыямі на цымбалах выступіла спч. Інга Ліпай.



Спч. Інга Ліпай падчас выступленьня.



Сп. М. Уягара вітае ўдзельнікаў імпрэзы.

Затым з дакладам "Не - інтэграцыі з Расеяй" выступіў сп. Вітаўт Кіпель, які адзначыў, што вось ужо 85 гадоў ідэя незалежнасьці Беларусі натхняе новыя і новыя пакаленьні змагароў. Сп. Кіпель узгадаў, што быў знаёмы шмат з кім зь дзеячоў - заснавальнікаў БНР і змагароў за беларушчыну, у тым ліку Антонам і Язэпам Лёсікамі, Міколам Азбукіным, Кастусём Езавітавым, Міколам Шылам, Эдвардам Будзькам ды іншымі. Акт 25-га Сакавіка даўся нялёгка. У Беларусі ў 1918-м годзе дзейнічала каля 50 палітычных партыяў, але большасьць палітычных дзеячоў знайшлі супольную палітычную плятформу, што складалася з падтрымкі незалежнасьці Беларусі ў ейных этнічных межах Прыняцьце Акту 25-га Сакавіка адбывалася ў складаных абставінах. Краіна была зьнясіленая гадамі Першай Сусьветнаю вайною, атачаная войскамі замежных дзяржаваў, у катастрафічным стане была ейная эканоміка. Але воля людзей здабыць лепшую долю для свайго краю, скінуць кайданы векавога прыгнёту перамагла боязь і засьцярогі. Тысячы беларусаў страцілі жыцьцё ў змаганьні, беларуския этнічныя землі былі адкроеная ад цела Беларусі, стагодзьдзі чужаземнага панаваньня высмоктвалі зь Беларусі, акрамя іншага, найкаштоўнейшы рэсурс - здольную моладзь, што мусіла шукаць лепшага жыцьця на службе польскай ды маскоўскай. Акт 25-га Сакавіка паказаў, што забраны край мае волю да незалежнасьці й годнага жыцьця, мае таленавітых і ахвярных людзей. І таму, ня гледзячы на страты й паразы, на Курапаты й Хатынь, беларускі народ прыйшоў да незалежнасьці. Сёньня ганебны лукашэнкаўскі рэжым, які ўсяляк падтрымоўваюць імпэрскія колы Расеі, пануе ў Беларусі. Ужо 9 гадоў цягнецца над назовам "інтэграцыі" гнюсны гандаль незалежнасьцю Беларусі. І таму мы заяўляем: Не - інтэграцыі з Расеяй! Не - зьнішчэньню беларускай незалежнасьці! Не - этнацыду беларускага народу! Жыве Беларусь, і тысячы змагароў ёсьць зарука таго, што яна будзе жыць!

Затым усе адсьпявалі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пасьля урачыстай акадэміі й банкету адбыўся канцэрт, на якім выступіла трыё сям'і Казакоў - Валянціна Пархоменка, Алесь Казак і Вольга Казак. Прысутныя маглі набыць беларускія кнігі й гуказапісы, агледзець выставу беларускай народнай творчасьці.

Падзяка за арганізацыю праграмы, падрыхтоўку банкету і афармленьне залі належыцца спн.сп. Юлі й Паўлу Андрусышыным, Але Кузьміцкай, Але Орса-Романо, Валеру Дворніку, Сяргею Пятровічу, Уладзімеру Цяліцу.

**Віталь ЗАЙКА**



Ньюёркаўцы заўсёды радыя бачыць трыо Казакоў на сваіх імпрэзах.

### Прамова сп. Майкла ЎЯГАРЫ

(друкуецца ў невялікім скароце)

Спадарыні й спадары, шаноўныя госьці, я вельмі рады ўдзельнічаць у гэтай імпрэзе, якая ўшаноўвае 85-ю гадавіну зьяўленьня Беларусі як самастойнай нацыі. У той далёкі час Беларусь ненадоўга здабыла незалежнасьць, і гэта нагадвае пра тое, што свабоду і незалежнасьць трэба стала пацьвярджаць і няспынна ахоўваць.

Мы ведаем, што пагроза свабодзе нацыі незаўсёды паходзіць звонку. Часамі грамадзяне губляюць свабоду дзеля ўнутраных прычынаў. Іхныя ўласныя лідары могуць скрасьці фундамэнтальныя правы людзей - свабоду слова, стаўараньня арганізацыяў, права свабодных выбараў свайго кіраўніцтва.

Беларусь адыграла важную ролю ў разбурэньні СССР. Яна зрабіла гістарычны ўнёсак, пазбавіўшыся ядзерный зброі. Беларусь тады зрабіла значныя крокі да ўсталяваньня дэмакратыі й узмацненьня сваёй нацыянальнай і культурнай тоеснасьці. Гэтым дасягненьням, аднак, не дазволена было працягвацца.

Існуюць сябры Беларусі, якія хочуць, каб яна вярнулася на шлях свабоды й незалежнасьці. Гэтыя асяродак уключае Злучаныя Штаты, Эўразьвяз і ягоныя краіны-сябры, міжнародныя арганізацыі, такія, як АБСЭ, і краіны-суседзі Беларусі.

13-га сакавіка сёлета газэта "Вашынгтон Таймс" надрукавала інтэрв'ю зь міністрам замежных справаў Эстоніі. Спн міністар параўнала сытуацыю ў ейнай краіне цяпер і ў савецкі час. Яна прыгадала між іншага, што ніколі ня ела ананасаў да 22 гадоў, бо такіх люксусаў у той час не было. Свабода таксама была такім люксусам. Пра Беларусь яна сказала: "Шмат у якіх адносінах я бачу Беларусь як краіну, якая патрабуе такой дапамогі, якую атрымалі мы. Гэтая краіна і яе народ мусяць з такою дапамогаю здабыць пачуцьцё ўпэненасьці ў сваіх сілах і пераканацца, што і яны могуць жыць вольна. Але цяпер, на жаль, такой падтрымкі пакуль няма".

Мы ўсьведамляем, аднак, што толькі самыя беларусы могуць вярнуць Беларусь да незалежнасьці й свабоды. Урад ня можа супрацьстаяць народу, аб'яднанаму ў змаганьні за сваю чалавечую годнасьць. Разам з тым, людзі ня змогуць аб'яднацца, не пабачыўшы магчымасьці зьменаў і не паверыўшы, што зьмены прынясуць паляпшэньне жыцьця.

У гэтым сэнсе беларуская дыяспара можа адыграць ключавую ролю. Асабістыя кантакты могуць даць надзею, пераканаць, што існуе выбар, існуе альтэрнатыва сёнешняму жыцьцю ў нядолі.

Урад ЗША гатовы дапамагчы Беларусі, ён ужо выдаткавалі на дапамогу Беларусі каля 600 мільёнаў даляраў, пачынаючы з 1992-га году. Мы працягваем падтрымліваць грамадзянскую супольнасьць у Беларусі, незалежныя медыі й палітычную апазыцыю. Найбольш значнаю дапамогаю зьяўляюцца праграмы абмену досьведам, якія даюць беларусам магчымасьць пабачыць, як жывуць па-за межамі Беларусі, зразумець перавагі, якія дае людзям вольнае грамадзтва. У 2002-м годзе ўрад ЗША запрасіў на кароткатэрміновае прафэсыйнае навучаньне й на навуковыя праграмы 173-х беларускіх грамадзянаў.

Урад ЗША прапанаваў крокі для паляпшэньня аносінаў зь Беларусьсю ў адказ на адпаведныя крокі беларускага ўраду ў чатырох ключавых сфэра, якія ўзмоцняць электаральны працэс, павялічаць свабоду медыяў улучна з доступам апазыцыі да дзяржаўных медыяў, вернуць сапраўдную заканадаўчую ўладу парляманту і спыняць клімат рэпрэсіяў.

Кангрэс ЗША заклапочаны сытуацыяй у Беларусі. 13-га лютага сёлета кангрэсмэн Сміт ініцыяваў законапраект "Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003". Сэнатар Кэмбэл плянуе выставіць аналягічны законапраект у Сэнаце. Акт аб Дэмакратыі прадугледжвае павелічэньне фінансавай падтрымкі й увядзеньне санкцыяў да той пары, пакуль Беларусь ня зробіць значнага прагрэсу на шляху рэформаў.

Дзякую вам за тое, што запрасілі мяне на гэтую імпрэзу. Я спадзяюся, што хутка мы адсьвяткуем яшчэ адзін Дзень Незалежнасьці. Гэты дзень, верагодна, будзе не 25-га сакавіка, але гэта будзе дзень, калі вы зможаце адсьвяткаваць вяртаньне свабоды ў Беларусь.

## Чыкага

Беларусы Чыкага і прыгарадаў урачыста адзначалі Дзень Волі 30-га сакавіка. У Беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Юрыя пасьля набажэнства і сьпяваньня рэлігійнага гімну "Магутны Божа" з казаньнем, прысьвечаным 85-й гадавіне абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, зьвярнуўся настаяцель царквы айцец Дзьмітры Бажко. Потым прагучала маленьне за Беларусь, за яе народ, які варты лепшае долі й лепшага лёсу.

Перад сьвяточным абедам з рэфэратам "Значэньне Дня 25-га Сакавіка для беларусаў Бацькаўшчыны й усяго сьвету" выступіў журналіст Ванкарэм Нікіфаровіч. У канцы імпрэзы адбылося падпісаньне лістоў да сэнатара Рычарда Дурбіна і кангрэсмэна Рахма Эмануэла з просьбамі падтрымаць унесены на разгляд Сэнату і Кангрэсу ЗША "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі-2003".

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ**

У кожную нядзелю ў царкве Хрыста-Збаўцы ў Чыкага на вуліцы Фулертон зьбіраюцца беларусы-каталікі ўсходняга абраду на Багаслужбы. І 30-га сакавіка сёлета таксама. У гэты дзень настрой ва ўсіх быў асаблівы, і гэта падкрэсьлівалі нацыянальныя строі, у якія былі апранутыя многія, бо сябры Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў штату Ілінойс сьвяткавалі 85-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Старшыня Камітэту др. Вітаўт Рамук па-беларуску сказаў прамову на тэму дня, яркую ў апісаньні беларускага дзяржаўнага будаўніцтва пасьля 1917-га году. Ён падкрэсьліў значнасьць і сілу Акту 25-га Сакавіка і ягонага сьвяткаваньня на Бацькаўшчыне і на эміграцыі, дзе ёсьць беларускія арганізацыі. Затым др. Рамук зачытаў зварот Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвілла да беларусаў. Спн. Вера Рамук расказала аб падзеях паангельску. А потым усе адсьпявалі гімн "Магутны Божа".

Хвілінаю маўчаньня ўшанавалі памяць памершых сяброў Камітэту і ўсіх змагароў на Бацькаўшчыне.

Пасьля афіцыйнае часткі быў абед, падрыхтаваны спн. Вераю Рамук. Як аказалася, яна ня толькі шчыры руплівец на ніве беларускага адраджэньня ў Чыкага, але і цудоўная гаспадыня.

**К. ПАНУЦЭВІЧ**

## Кліўленд

Нядзельная раніца 23-га сакавіка ў Кліўлендзе была ўрачыстаю. Беларуская грамада адзначала 85-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР. Пасьля Багаслужбы ў царкве Сьв. Божае Маці Жыровіцкае, што ў Стронгсвіле, агаеўскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і культурна-рэлігійны цэнтар "Полацак" праводзілі сьвята.

Урачыста падняліся амэрыканскі й беларускі сьцягі над будынкам "Полацаку". Глядзячы на іх і на крыжы нашае сьвятыні людзі сьпявалі нацыянальны гімн. Пасьля супольнае малітвы старшыня агаеўскага аддзелу БАЗА Пол Васілеўскі адкрыў урачыстасьць. Былі зачытаныя прывітаньні й грамадзкасьць атрымала інфармацыю аб выніках перапіскі з агаеўскімі кангрэсмэнамі ў справе падтрымкі Акта аб дэмакратыі ў Беларусі. Кіраўнік БАЗА ў Агаё заклікаў гасьцей працягваць зварочвацца да сваіх прадстаўнікоў і падкрэсьліў надзвычайную важнасьць гэтае справы.

Выдатны даклад на тэму 25-га Сакавіка зрабіў акадэмік Сямён Шарэцкі. Заля была ўзрушаная ягонаю кранальнаю прамовою.

З кароткім паведамленьнем аб падзеях у Беларусі выступіў сябра ўправы аддзелу БАЗА сп. Бахціяр Бахціяраў, які, як вопытны журналіст, паабяцаў рэгулярна інфармаваць грамаду аб жыцьці на Бацькаўшчыне. Да рэчы, дзякуючы газэце, якую ён выдае ў Кліўлендзе, на нашае сьвята прыйшлі прадстаўнікі гэбрайскай эміграцыі, якія паходзяць зь Беларусі, а таксама беларускія ўкраінцы.



*Старшыня аддзелу БАЗА ў Агаё Пол Васілеўскі вітае ўдзельнікаў імпрэзы ў "Полацку" са сьвятам.*

Спадабаліся гасьцям беларускія песьні ў выкананьні кліўлендзкага хору пад кіраўніцтвам Аляксандра Яноўскага. Цудоўныя галасы Гелены Радзюк, Мані Патапенка, Анатоля Лук'янчыка ды іншых загойвалі тугу па Бацькаўшчыне і падымалі настрой. 5-гадовы Алеська, які прачытаў верш "А хто там ідзе", выклікаў авацыі прысутных.

Да сьвята быў падрыхтаваны добры пачастунак і напоі, якія зь сяброўскімі размовамі ў дабразычлівай атмасфэры, аб'ядналі ўсіх прысутных. Удзельнікі сьвяткаваньня маглі набыць гістарычна-рэлігійны альманах, які выдае і рэдагуе ведамы кліўлендзкі беларускі дзеяч Міхась Белямук.

Прыемна было бачыць на сьвяткаваньні й іншых "патрыярхаў" беларускай справы, якія аддалі столькі шмат адраджэнскай дзейнасьці. Гэта сп. Васіль Радзюк, адданы будаўнік Беларускай Аўтакефаліі; шматгадовы кіраўнік кліўлендзкага аддзелу БАЗА сп. Раковіч; адзін зь лепшых экспэртаў па сучаснай беларускай гісторыі сп. Васіль Мельяновіч, які неаднаразова наведваў Беларусь у першыя гады незалежнасьці й дэмакратыі. Добра, што гэтым заслужаным людзям ёсьць каму перадаваць свае веды й вопыт, якія яшчэ добра паслужаць на карысьць беларускага народу.

**Сяргей ВАСІЛЬЕЎ**

## Саўт Рывэр

Традыцыйнае ўшанаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Саўт Рывэры ў нядзелю 23-га сакавіка. У царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Стаўрас адслужыў малебен за дабрабыт беларускага народу, а ў пропаведзі заклікаў маленьнікаў быць вернымі сваім духовым і культурным традыцыям. Дзень перад гэтым у цэнтры гораду быў вывешаны побач з амэрыканскім беларускі нацыянальны сьцяг. Кіраўнікі Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру ды царкоўнай рады прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай наладзілі прыняцьце мэру гораду Робэрту Шэгеты й сябром гарадзкое рады.

У нядзелю пасьля Багаслужбы адбылася акадэмія, на якой прысутнічалі мэр Саўт Рывэру й гарадзкія радныя. Мэр Шэгеты зачытаў падпісаную ім праклямацыю Дня Беларускай Незалежнасьці. У праклямацыі, між іншага, сказана, што беларуса-амэрыканцы гораду ўдзячныя Прэзыдэнту Джорджу Бушу-старэйшаму за прызнаньне незалежнасьці Рэспублікі Беларусь 25-га сьнежня 1991-га году. Старшыня царкоўнае рады сп. Робэрт Цупрык выступіў з дакладам на ангельскай мове пра інтэграцыйную палітыку А. Лушкашэнкі, а сп. Міхась Сенька, пабеларуску, гаварыў пра Акт 25-га Сакавіка. Было зачытаная таксама праклямацыя губэрнатара штату Нью Джэрзі Джэймса МакГрыві, якая абвяшчае дзень 25-га сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці ў Нью-Джэрзі. У дакумэнце адзначаецца вялікі ўклад беларусаў Нью Джэрзі ў грамадзкае, культурнае й эканамічнае жыцьцё штату.

У мастацкай частцы сьвяткаваньня сьпява Віла Саўчанка выступіла са сваім вершам патрыятычнага характару, а Валянтын Дзямешчык і Аляксандар Балотнікаў прапаялі дуэтам пад акампанімэнт музыкі лірычную песьню "Ня шуміце, бярозы".

**(Я.З.)**

# АКТ АБ ДЭМАКРАТЫІ Ў БЕЛАРУСІ 2003

Гэты законапраект (Bill H.R. 854) быў прадстаўлены ў Палаце Прадстаўнікоў у лютым сёлета і пазьней у Сэнаце Злучаных Штатаў Амэрыкі. Ягоны поўны тэкст займае некалькі старонак, і яго можна знайсьці ў Запісах Кангрэсу ад 13-га лютага. Беларускі тэкст ёсьць на інтэрнэтаўскай старонцы Радыё Свабода.

У наступных радках падаюцца ягоныя асноўныя пункты.

Поўны назоў: Законапраект дзеля падтрымкі дэмакратыі, правоў чалавека і законаўладзьдзя ў Беларусі й дзеля ўмацаваньня незалежнасьці Беларусі.

У 2-м разьдзеле пералічаюцца ўсе парушэньні ў Беларусі, якія выклікалі прыняцьця гэтага закону.

У 3-м разьдзеле пералічаюцца канкрэтныя мэты дапамогі й спосабы для развіцьця дэмакратычнага грамадзтва ў Беларусі: (1) беларускаму народу раздабыць сваю свабоду і далучыцца да дэмакратычнай супольнасьці Эўропы;

(2) заахвоціць да правядзеньня вольных і справядлівых прэзыдэнцкіх, парляманцкіх і мясцовых выбараў паводле міжнародных стандартаў і пад міжнародным наглядам;

(3) памагчы ў аднаўленьні й умацаваньні дэмакратычных інстытутаў у Беларусі.

Наступныя дзеяньні павінны атрымаць падтрымку:

- нагляд за выбарамі й падтрымка вольных і справядлівых выбарчых працэсаў;

- развіцьцё дэмакратычных палітычных партыяў;

- вяшчаньне праз радыё і тэлебачаньне ўнутры і з-за межаў Беларусі;

- развіцьцё недзяржаўных арганізацыяў, якія спрыяюць дэмакратыі й падтрымоўваюць правы чалавека;

- развіцьцё незалежных сродкаў інфармацыі ў Беларусі й за мяжою, якія карыстаюцца незалежнымі друкарнямі;

- міжнародны абмен і вышэйшая прафэсійная адукацыя ў будаваньні свабоднага грамадзтва для лідэраў і сяброў дэмакратычных сілаў.

Для выкананьня вышэйзгаданых дзеяньняў на працягу 2004-05 гадоў Прэзыдэнту ЗША асыгнуецца $40 мільёнаў аж да часу іх расходаваньня.

У 4-м разьдзеле асыгнуюцца дадатковыя $5 мільёнаў на год для Голасу Амэрыкі й Радыё Свабода для радыёвяшчаньне ў Беларусь.

У 5-м разьдзеле пералічваюцца санкцыі супраць ураду Беларусі.

- забараняецца ўезд у Злучаныя Штаты Амэрыкі вышэйшаму кіраўніцтву ўраду Беларусі й іхным сем'ям;

- забараняецца экспарт кампутарнай тэхналёгіі, прызначанай для ўрадавых структураў Беларусі, вынятак робіцца для патрэбаў гуманітарных;

- забараняюцца амэрыканскія ўрадавыя пазыкі й інвэстыцыі, прызначаныя ўраду Беларусі, вынятак робіцца для гуманітарных, сельскагаспадарчых і мэдычных прадуктаў.

Гэтыя санкцыі могуць быць адмененыя, калі Прэзыдэнт ЗША засьведчыць перад Кангрэсам, што зроблены значны прагрэс у выкананьні наступных умоваў:

(1) вызваленьне ў Беларусі асобаў, якія знаходзяцца ў турме з-за палітычных або рэлігійных перакананьняў;

(2) скасаваньне палітычна матываваных судовых скаргаў у Беларусі супраць усіх апазыцыйных дзеячоў і незалежных журналістаў;

(3) поўнае расьсьледваньне справаў зьнікшых палітычных лідэраў і журналістаў і прыцягненьне да адказнасьці вінаватых асобаў;

(4) спыненьне перасьледу незалежных сродкаў інфармацыі, незалежных прафсаюзаў, недзяржаўных і рэлігійных арганізацыяў і палітычнай апазыцыі ў Беларусі.

(5) правядзеньне вольных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парляманцкіх выбараў паводле стандартаў і пры ўдзеле Арганізацыі па Бясьпецы й Супрацоўніцтву ў Эўропе.

У 6-м разьдзеле Прэзыдэнт ЗША заклікаецца шукаць супрацоўніцтва іншых краінаў у выкананьні ўмоваў гэтага закону.

У 7-м разьдзеле патрабуецца ад Прэзыдэнта ЗША штогоду даваць справаздачу, у якой апісваць усе дачыненьні ў справе продажу зброі празь Беларусь краінам, якія памагаюць міжнароднаму тэрарызму. У справаздачы павінна быць апісаная асабістая маёмасьць і багацьце Аляксандра Лукашэнкі й вышэйшага ўрадавага кіраўніцтва Беларусі.

У 8-м разьдзеле выказваецца падтрымка ўсім у Беларусі, хто працуе дзеля развіцьця дэмакратыі, правоў чалавека і законаўладзьдзя, для незалежнасьці Беларусі й інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць. Выказваецца заклапочанасьць зьнікненьнем палітыкаў і Лукашэнка заклікаецца спыніць перасьлед сваіх апанэнтаў. Урад Расеі заклікаецца ўжыць свой уплыў дзеля дэмакратызацыі Беларусі.

У апошнім, 9-м разьдзеле, гаворыцца, што гэты законапраект прызначаецца да кампэтэнцыі Камітэту Міжнародных Дачыненьняў ў Палаце Прадстаўнікоў (House International Relations Committee) і Камітэту Замежных Дачыненьняў у Сэнаце (Senate Foreign Relations Committee).

У Сэнаце амаль аднолькавы законапраект з аднолькаваю назваю мае нумар S. 700.

**Вячка СТАНКЕВІЧ**

*Заклікаем чытачоў "Беларуса", якія жывуць у ЗША, зьвяртацца да сваіх сэнатараў і кангрэсмэнаў пісьмова і тэлефонна з просьбаю падтрымаць гэтыя законапраекты й стаць іхнымі суспонсарамі. Прыкладны тэкст ліста да сэнатара друкуем ніжэй. Можаце зьмяніць гэты тэкст, каб зрабіць яго больш пэрсанальным.*

Dear Senator,

Recently the Bill S. 700 "Belarus Democracy Act of 2003" was introduced in the Senate by Senator Ben Nighthorse Campbell of Colorado. Senator Joseph R. Biden has joined him as the original cosponsor, as has Senator John McCain as cosponsor.

The aim of this bill is to help promote democracy, human rights and the rule of law in Belarus. It also considers sanctions against the dictatorial regime of Alexander Lukashenka. This regime is responsible for the disappearance of a number of political opponents. It recently enacted the most discriminatory law on religion in Europe.

What is even more alarming, it is also a major supplier of arms and training to states that support terrorism, including Iraq.

I hope that you will support S.700 "Belarus Democracy Act of 2003" and become its cosponsor.

Belarus, a country where I have friends, deserves to be free and democratic.

Sincerely, ..........................
Address ..................
..........................

# 25 САКАВІКА Ў БЕЛАРУСКІХ АСЯРОДКАХ

## Аўстралія

### Мэльбурн

Угодкі 25-га Сакавіка, Слуцкага Збройнага Чыну, 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу разам зь Беларускаю Краёваю Абаронаю - гэта тыя сьвяты, якія кожны год адзначае Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі супольна з парафіяй царквы Віленскіх Мучанікаў БАПЦ.

Сёлета ўрачыстую акадэмію, прысьвечаную 85-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР, правялі 30-га сакавіка. Людзі пачалі зьбірацца на Сьвятую Літургію ўжо з раніцы, бо як раз быў зьменены час зь летняга на зімні. Айцец А. Кулакоўскі адслужыў Багаслужбу і, пасьля кароценькага перапынку, пачаў гаварыць пра дзень нашага нацыянальнага сьвята, а менавіта, што нашым абавязкам ёсьць шанаваць усё нашае, бо яно бліжэй сэрцу, але часта мы забываемся і адносімся да свайго абыякава, што і паказвае наш сучасны стан. Хоць мы й больш народ за іншыя, але, на жаль, маем толькі тое, што прыдбалі для сябе. Вось дзе нашая слабасьць. Толькі наракаем часта, што нехта мае, а мы не.

Адслужыўшы малебен, сьвятар запрасіў усіх у царкоўную залю на сьвецкую частку нашага сьвята. Пасьля кубка гарбаты пачалася акадэмія. Так як Старшыня БЦК сп. Паўлюк Гуз папраўляецца пасьля апэрацыі, то ўрачыстасьць вёў сп. Аўген Груша, які прывітаў прысутных ды зачытаў прысланыя віншаваньні ад розных беларускіх арганізацыяў, а менавіта: Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвілла, газэты "Беларус", Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі, Беларускага Аб'еднаньня ў Адэляйдзе, Беларусаў Пэрту, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі, ЗБС "Бацькаўшчына" зь Менску.

Пасьля выступіў сп. Ян Барысевіч, які прачытаў Заклік да беларусаў сьвету Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Пры нагодзе сп. Паўлюк Гуз сабраў 220 аўстралійскіх даляраў ахвяраваньняў на "Дар Сакавіка".

Тады перайшлі да мастацкае часткі, у якой спн. Вера Шэйпак прачытала верш а. М. Бурноса, а сп. А. Груша верш Янкі Купалы. Пасьля гэтага нашыя дзяўчаты з хору "Каліна" пад кіраўніцтвам спн. Тамары Субач, усе ў нацыянальных строях, праспявалі чатыры песьні.

Пасьля гэтага ўсе ў вясёлым настроі сталі купляць квіткі на лятарэю, якую арганізавала сястрыцтва, а прыбытак пайшоў на іхную дзейнасьць. У дадатак да ўсяго настаяцель царквы меў дзень народзінаў і частаваў усіх адмысловым тортам, а яму сьпявалі "Многае лета".

На разьвітаньне ўсе зрабілі агульнае фота і ў вясёлым сьвяточным настроі сталі памалу разьяжджацца па дамах, жадаючы адзін аднаму весела правесьці Сьвятую Пасху.



Удзельнікі сьвяточнае імпрэзы ў аўстралійскім штаце Вікторыя.

**Паўлюк ДУБРОЎСКІ ГУЗ**

## Пэрт

У нядзелю, 23-га сакавіка, сабраліся сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі, каб ужо ў 52-га раз запар адсьвяткаваць Дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Урачыстасьць пачалася адыграньнем нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Затым вітаў сяброў і дзякаваў ім за прыбыцьцё, а таксама пажадаў усім добрага здароў'я, вытрываласьці ды сілаў да змаганьня за канчатковае вызваленьне Бацькаўшчыны ад розных панявольнікаў Старшыня Аб'еднаньня сп. Міхась Раецкі-малодшы. Пасьля гэтага сп. Міхась Раецкі-старэйшы прачытаў прысланы Старшынёю Рады БНР Івонкаю Сурвілла "Адкрыты ліст да беларускага народу", "Зврот да старшыняў беларускіх арганізацыяў і радных БНР" і вітаньне з 25-м Сакавіка, а таксама вітаньні ад Згуртаваньня Беларусаў Сьвету, Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі й Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі.

Па кароткім перапынку з дакладам аб значэньні 25-га Сакавіка для Беларусі, яе народу ды нас на чужыне выступіў Міхась Раецкі-старэйшы. Як выглядала, даклад спадабаўся прысутным, бо яны ўзнагародзілі прамоўцу гучнымі воплескамі.

Па афіцыйнай частцы правялі збор ахвяраваньняў на "Дар Сакавіка".

Закончылася сьвяткаваньне пачастункам, падрыхтаваным спадарынямі Ніжнік і Мароз, за што ім прысутныя шчыра ўдзячныя.

26-га сакавіка беларуская радыёпраграма была поўнасьцю прысьвечаная 85-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР. Па радыё прагучалі матэрыялы, дасланыя Старшынёю Рады БНР Івонкаю Сурвілла.

**Р. М.**

## Бэльгія

Сьвяточны дзень 25-га Сакавіка Беларускі цэнтар у Бэльгіі пачаў а 11-й гадзіне пікетам ля беларускай амбасады ў Бруксэлі. Як заўсёды, ня гледзячы на працоўны дзень, зьехаліся людзі з усіх куткоў Бэльгіі. Прысутнічалі сябра Рады БНР сп. Янка Жучка, сьвятар а. Майсейчык, сем'і Гурскіх, Брылеў, сп. сп. Лазарчук, Курлюк, Раманаў, Матальцкі, Удалоў, Навіцкі, спн. Спн. Курбацкая, Калкоўская, Піліпенка, Брэль ды іншыя. Пад бел-чырвона-белымі сьцягамі людзі трымалі плякаты "25 Сакавіка - Дзень незалежнасьці!", "Свабоду і дэмакратыю ў Беларусь!", "Свабоду палітычным вязьням!", "Стоп карным акцыям у Беларусі!", "Праўду аб зьніклых!"

Пікет прайшоў спакойна і скончыўся а 12-й гадзіне. Як і на працягу апошніх чатырох гадоў ніхто з супрацоўнікаў амбасады да ўдзельнікаў пікету ня выйшаў.

Напярэдадні пікету Беларускі цэнтар прымаў у сябе намесьніка галоўнага рэдактара газэты "Народная Воля" сп. А. Сіліча. На сумесным пасяджаньні прынялі заяву, у якой адзначаецца, што "незалежная дзяржава - неацэнная каштоўнасьць кожнае нацыі. Але беларуская незалежнасьць, не пасьпеўшы замацавацца, зноў знаходзіцца пад пагрозаю зьнішчэньня, якая ідзе ад імпэрскае Расеі, кіраўніцтва якой праз антыбеларускі рэжым Лукашэнкі імкнецца да інкарпарацыі нашай краіны. Мы зьвяртаемся да дэмакратычных краінаў сьвету з заклікам падтрымаць дэмакратычныя сілы ў Беларусі".

Гэты зварот быў накіраваны ў Эўрапарлямант.

Увечары 28-га сакавіка ў спэцыяльнай зале адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 85-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР. На ўрачыстасьці прысутнічалі сябры Рады БНР Янка Жучка і Арэшка, а таксама старшыня менскага абласнога Гельсінскага камітэту сп. Лявон Мархотка, які прыехаў зь Беларусі.

**Аляксандар КУРЛЮК**




Удзельнікі пікетаваньня беларускай амбасады ў Бруксэлі.

## Вялікабрытанія

Сябры Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі сьвяткавалі 85-я ўгодкі агалошаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 29-га сакавіка ў доме пры Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны па адрасу 37 Holden Rd у Лёндане. Пасьля кароткай Багаслужбы, якую адправіў а. Аляксандар Надсон, пачалася ўрачыстая акадэмія.

Сяброў і гасьцей вітала спн. Л. Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Яна сказала, што ідэя незалежнасьці БНР прадаўжаецца сёньня ў Беларусі, хаця і з перашкодамі ад цяперашняга ўраду. Праф. Дынглі вітаў прысутных ад Англа-Беларускага Таварыства па-ангельску.

Сп. Сяргей Пяткевіч прачытаў прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Грамады Беларускай Культуры з Масквы, Таварыства Беларускай Мовы, сп. Аляксея Ганчарыка зь Менску.

Сп. Мікалай Пачкаеў прачытаў даклад на тэму сьвяткаваньня па-ангельску і зьвярнуў увагу на тое, як беларускі ўрад у Менску рэагуе на імкненьне маладых людзей да незалежнасьці, калі іх хапаюць падчас шэсьцяў, брутальна вырываюць бел-чырвона-белыя сьцягі, а сам Лукашэнка сьпяшаецца да як найхучэйшай інтэграцыі з Расеяй.

У мастацкай частцы сп. Павал Шаўцоў чытаў вершы Вінчука Адважнага і Натальлі Арсеньневай, а спн. Вера Рыч і Ігар Лабацэвіч прачыталі верш "Свабода" па-ангельску і па-беларуску. Ад нядзельнай школкі пад кіраўніцтвам Караліны Мацкевіч выступілі дзеткі, прыгожа апранутыя ў беларускія нацыянальныя строі. Дзяўчаткі ўпрыгожылі сукенкі бел-чырвона-белымі кветачкамі, якія яны самыя зрабілі. Чацьвёра дзяўчынак дэклямавалі беларускія вершы.

На заканчэньні ўрачыстай часткі ўдзельнікі праспявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", і былі запрошаныя на пачастунак, смачна прыгатаваны жанчынамі. З чаркаю віна ў сяброўскіх гутарках прыемна правялі час.

**М. БАЯРОЎСКІ**

# Канада

## Монтрэаль

Сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР уадбылося 23-га сакавіка. Прысутнічалі госьці з Таронта і Атавы.

У мастацкай частцы выступіў ведамы ў Паўночнай Амэрыцы гурт "Яваровыя людзі", які адмыслова прыехаў на ўрачыстасьць з Таронта.

## Таронта

Сьвята плянавалася 30-га сакавіка ў залі парафіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На жаль, запрошанаму сьвятару Вячаславу Логіну, што цяпер служыць у Гайланд Парк, Нью Джэрзы, амэрыканскія ўлады з прычынаў бясьпекі ваеннага часу адмовілі ў пропуску ў Канаду, якая тым часам у вайне з Іракам не бярэ ўдзелу.

У прыгожа ўдэкараванай залі а 12-й гадзіне пратэстанцкі сьвятар а. Юры Рапэцкі ўрачыста прачытаў "Ойча наш" і "Малітву да Сьвятога Кірылы Тураўскага".

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, што нядаўна вярнулася з Прагі, заклікала да яднаньня беларусаў пад сьцягам Беларускай Народнай Рэспублікі, перасьцерагала Рэспубліку Беларусь ад так званай "інтэграцыі" - г. зн. ліквідацыі дзяржаўнасьці ў аднюленай "імпэрыі зла" - Маскоўшчыне. Шлях да захаваньня волі Беларусі здабудзецца супольнымі намаганьнямі па ўмацаваньні дэмакратыі й супрацоўніцтву з Эўрапейскім Зьвязам ды аднаўленьню сапраўды беларускай улады ўва ўсіх галінах жыцьця нашай цяпер паняволенай Бацькаўшчыны.

Спадарыня Сурвілла прывязла з Прагі істужку з запісам голасу нашага выдатнага пісьменніка Васіля Быкава. Дзякаваць Богу, ён добра вытрымаў цяжкую апэрацыю і жадаў нам посьпехаў і добрага здароўя. Прысутныя пажадалі Васілю Быкаву скарэйшага выздараўленьня, шчасьлівай будучыні.

З кароткім прывітаньнем выступала д-р Раіса Жук-Грышкевіч. Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др. Руслан Качаткоў згадаў прывітаньні іншых з нагоды сьвята ды прачытаў даклад пра гісторыю 25-га Сакавіка.

Старшыня Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады др. Пётра Мурзёнак вітаў прысутных і прапанаваў апрацаваную ім і ўжо прынятую ў папярэднюю нядзелю ў Монтрэалі сябрамі Згуртаваньня Беларусаў у Квебэку дэкляярацыю нашага палітычнага становішча з нагоды ўгодкаў БНР.

Адбылося ўрачыстае знаёмства з Вольгай Іпатавай, паэткай і пісьменьніцай, якую ўдзячныя чытачы за яе прозу і паэзію на гістарычныя тэмы назвалі ЗОРКАЙ беларускай культуры. Сп. К. Акула прачытаў кароткую характарыстыку змагарнага, плённага творчага жыцьця Зоркі. Прысутныя мелі выдатную нагоду паслухаць цудоўную дэкламацыю яе вершаў, за што ўзнагародзілі госьцю, устаўшы, гучнымі воплескамі.

Пасьля заканчэньня ўрачыстай часткі на сцэну выйшлі ўдзельнікі гурту "Яваровыя людзі". Яны сьпявалі дый танцавалі й у мінулую нядзелю ў Монтрэалі, а летась і ў Нью Ёрку, весялілі нашым багатым фальклёрам, дзякуючы выдатнаму кіраўніцтву Віялеты Кавалёвай і дасканаламу майстэрству. Гэтых дзяўчат, жанчын, дзяцюкоў маем шанаваць і ўзнагароджваць. Іхныя прыгожыя нацыянальныя вопраткі чаго вартыя!

Яны атрымалі ад слухачоў і гледачоў вялізнае "дзякуем!"

Напошку прысутныя былі паінфармаваныя пра заклік Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Злучаных Штатах, каб як найскарэй правесьці сярод суродзічаў і іншых збор фінансаў на пакрыцьцё коштаў выданьня беларуска-ангельскага слоўніка, які надта неабходны для пашырэньня беларускай навукі й культуры.

Нашым спадарыням - Марыі Ганько, Вользе Манькоўскай і Іне - вялікая падзяка за падрыхтоўку страваў да абеду.

Сп-ру А. Моніду вялікае дзякуй за збор фінансаў на фонд Рады БНР.

Сьвята закончылі адсьпяваньнем нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

***Увага:** жыхары Канады ахвяраваньні на выданьне слоўніка могуць накіроўваць на мой адрас:*

***Mr. K. Akula***
***57 Riverdale Ave***
***Toronto, ON M4K 1C2***

***Кастусь АКУЛА***

## Атава

Сьвяткаваньне Дня незалежнасьці беларусы Атавы правялі 6-га красавіка. Пачалося яно пікетаваньнем расейскае амбасады, каб выказаць пратэст супраць планаў расейскіх уладаў па анэксіі Беларусі. На акцыю прыехалі таксама беларусы з Таронта і Монтрэаля. Яны скандыравалі разам лёзунгі: "Жыве Беларусь!", "Пуцін, ганьба!", "Independent Belarus!", "Hands off Belarus!", прасьпявалі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

А імпрэза сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці прашла ў атаўскім City Hall. Пасьля праловаў і афіцыйных віншаваньняў пачалася мастацкая частка. Яе адкрыў дуэт "Простыя рэчы" з удзелам Міхаіла Рыкава і Ўлады Шамецька.

Потым выступаў гурт "Яваровыя людзі" з Таронта. Гэты гурт ужо другі раз з гонарам і задавальненьнем выступае ў атаўскім City Hall. Новая праграма гурта, з абрадам "Загуканьне вясны", прайшла на біс.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ, прынятая на ўрачыстых сходах у Монтрэалі, Таронта і Атаве

Мы, сябры Згуртаваньня Беларусаў Канады й Згуртаваньня Беларусаў у Квэбэку, сьвяткуючы, 85-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, заяўляем:

1. Абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га сакавіка 1918-га году - важнейшая гістарычная падзея ў жыцьці беларускага народу. Трэцяя Ўстаўная Грамата юрыдычна замацавала ўтварэньне незалежнай дзяржавы й гарантавала дэмакратычныя свабоды яе грамадзянам. Працэс вяртаньня гістарычнай справядлівасьці ў адносінах да Беларускай Народнай Рэспублікі, пачаты ў 1991-м годзе, быў вераломна перапынены прэзыдэнтам Беларусі А. Лукашэнкам.

2. Сёньня незалежнасьць нашай краіны зноў у небясьпецы. Як і 85 гадоў назад, Расейская дзяржава адкрыта праводзіць палітыку экспансіі ў адносінах да Беларусі. Аб гэтым сьведчаць як заява прэзыдэнта Расіі сп. У. Пуціна ад 14-га жніўня 2002-га году аб уваходжаньні Беларусі ў склад Расейскае Фэдэрацыі, так і Канстытуцыйны акт аб стварэньні Саюзу Расеі й Беларусі, прыняцьце якога плянуецца ў красавіку 2003-га году.

3. Звяртаемся да ўраду Расейскай Фэдэрацыі і яе парляманту з патрабаваньнем неадкладна спыніць захопніцкую палітыку ў адносінах да Беларусі. Пара палажыць канец ганебным імпэрскім памкненьням Мураўёва, Сталіна і пазнейшых лідэраў з мэтаю зьнішчыць беларускі народ і ягоную культуру.

4. Зьвяртаемся да адказных і разважлівых чальцоў беларускага ўраду - зрабіце ўсе магчымыя намаганьні, каб не дапусьціць гандлю дзяржаўнай незалежнасьцю і спыніць чорны расейскі капітал. Незалежнай краіне - незалежную эканоміку, арыентаваную як на Захад, так і на Усход, як на Поўдзень, так і на Поўнач. Не - валюнтарысцкім эканамічным рашэньням А.Лукашэнкі.

5. Зьвяртаемся да народаў сусьветнай супольнасьці, да Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, ЮНЕСКА, да ўрадаў дэмакратычных краінаў з просьбаю выказаць сваю падтрымку беларускаму народу, яго дэмакратычным сілам і інстытутам у барацьбе за незалежнасьць Беларусі.

6. Падтрымліваем намаганьні Рады БНР і яе Старшыні сп. Івонкі Сурвіллы скіраваныя на вяртаньне свабоды й незалежнасьці ў Беларусь.

Жыве Беларусь !

# Чэхія

У суботу 22-га сакавіка беларусы, якія жывуць у Чэхіі, сабраліся ў Люстраной залі ў будынку старажытнага Клементынуму, які лічыцца адным з найпрыгажэйшых архітэктурных комплексаў Прагі. Менавіта ў гэтай залі ў 1923-м годзе заснавальнікі БНР, якія апынуліся ў эміграцыі, адзначалі 5-годзьдзе яе ўтварэньня.

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спн. Івонка Сурвілла, павіншавала прысутных са сьвятам і адзначыла, што, каб будаваць свабодную, незалежную дзяржаву беларусам трэба знайсьці салідарнасьць і аб'яднацца вакол асноўнай ідэі, нягледзячы на перашкоды. Са словамі вітаньня выступілі таксама пісьменьнік Васіль Быкаў; рэдактар "Радыё-Свабода" Сяргей Навумчык; пісьменьнік, сябра ПЭН-цэнтру Валянцін Тарас; прадстаўнік праваабарончай арганізацыі "Чалавек у бядзе" Любаш Вэсэлы; старшыня менскай абласной рады БНФ дэпутат Пухавіцкага райсавету Алесь Міхалевіч. Былі зачытаныя віншавальныя лісты сусьветна ведамага навукоўца прафэсара Барыса Кіта, які жыве ў Нямеччыне, др. Раісы Жук-Грышкевіч з Канады, спн Лёлі Міхалюк зь Вялікай Брытаніі, сп. Янкі Жучкі з Бэльгіі, Лявона Шыманца з Францыі, беларусаў Аўстраліі. Зь вершам Натальлі Арсеньевай "Дваццаць Пяты Сакавік" выступіла спн. Марыя Лукашук зь Берасьця.

Зь віншавальным словам і кветкамі да патрыярха беларускага руху ў Празе сп. Юркі Станкевіча, якому напярэдадні споўнілася 75 гадоў, зьвярнуліся сябра ЗБЗ Галіна Куніна і старшыня суполкі "Скарына" Ганна Сурмач.

Па афіцыйнай частцы са сьлевамі выступілі барды Андрэй Мельнікаў і Сяржук Сокалаў-Воюш. Абодва музыкі прасьпявалі патрыятычныя творы са свайго рэпэртуару. Прагучалі як старыя, усім вядомыя песьні, так і новыя, спэцыяльна напісаныя да сьвята Дня Незалежнасьці.

ПА абедзе беларуская грамада наведала Альшанскія могілкі, дзе ўшанавала памяць і ўсклала кветкі да магілаў славутых беларусаў: Пётры Крэчэўскага, Міхася Забэйды-Суміцкага і сям'і Захаркаў.

Увечары культурная праграма працягнулася ў адной з рэстарацыяў у цэнтры Прагі, дзе выступы й сьпевы дапоўнілі добрыя напоі й ежа.

Працяг сьвяткаваньня 85-ых угодкаў БНР пачаўся а 10-ай гадзіне раніцы 25-га сакавіка. Ня гледзячы, што ў Чэхіі гэта быў працоўны дзень, каля 20-ці чалавек з арганізацыі Зьвяз Беларусаў Замежжа, іх украінскія калегі зладзілі пікет насупраць беларускай амбасады. Мэта - патрабаваць ад беларускіх уладаў гарантый незалежнасьці. Стоячы пад беларускімі й украінскімі нацыянальнымі сьцягамі, трымаючы ў руках плякаты з калажамі на "апошняга дыктатара Эўропы" прысутныя выказалі рашучы пратэст супраць дзеяньняў рэжыму ў Беларусі, супраць так званага "єдіненія Беларусі і Расеі", патрабавалі спыніць перасьлед беларускіх грамадзянаў па палітычных матывах.

Быў зачытаны супольны зварот Зьвязу Беларусаў Замежжа і суполкі "Скарына" да беларускага грамадзтва з заклікам адчуць адказнасьць за лёс Дзяржавы й Народу і ўсімі магчымасьцямі бараніць Незалежную Беларусь.

Прадстаўнікі беларускай амбасады не адгукнуліся на званкі ў дзьверы з мэтаю перадаць Зварот і сустрэцца зь землякамі. Больш таго, жалюзі на вокнах амбасады заставаліся зычыненымі нягледзячы на сярэдзіну дня і тыдня. Гэта дае падставы меркаваць, што як і шэраг дэпутатаў "палаты прадстаўнікоў ", беларускія дыпляматы ў Чэхіі таксама вызнаюць Дзень Незалежнасьці сьвятам, таму аўторак 25-га сакавіка 2003-га году зрабілі сваім выходным днём.

***Андрэй Мельнікаў***
***Аўген Сідорык***
***Сьвятлана Нех***



***Васіль Быкаў вітае суайчыньнікаў.***

# ПРАМОВА ВАСІЛЯ БЫКАВА

### на ўрачыстай акадэміі

Дарагія беларусы, шаноўныя нашыя госьці! 85 гадоў таму ў слотны й шэры дзянёк на зачыне вясны беларусы зьдзейсьнілі цуд. Не, яны не паніішчылі ворагаў, не вызвалілі краіну, не дамагліся свабоды, - але яны запалілі кволую сьвечку надзеі. Пры яе сьціплым сьвятле яны, як маглі, змагаліся з бальшавіцкай навалай, з фашыстоўскай акупацыяй, з роспачу і паняверкай, што за стагодзьдзі ўкаранілася ў гаротным народзе.

Мы ўсьцешаныя, што гэтая сьвечачка гарыць і дасюль, і хоць яе зыркі агеньчык слаба сьвеціць, часам капціць і ня грэе, але ён дае спадзяванак шмат якім пакаленьням беларусаў на сьвятло і цяпло, на свой дом і сваю сям'ю. Тое, без чаго ў гэтым драпежным сьвеце нікому няма і ня будзе жыцьця.

Дык няхай яна гарыць, нашая кволая спадзяванка, якую мы песьцім і тулім, ашчаджаем і беражэм, як лепшыя зь беларусаў яе берагді да нас з думкаю: а раптам яна ўспыхне сонечным зьзяньнем, калі надарыцца спрыяльны для таго час. Бо, калі ня будзе таго хай сабе слабога агеньчыку, ня ўспыхне нічога. І для нас настане вечная ноч. Але мы ня хочам вечнай начы, мы - божае стварэньне людзі, і маем права на боскую долю.

Памажы нам, Госпадзь!
Жыве Беларусь!

# КАБ ЛЮДЗІ ПАЧУЛІ - ТРЭБА ІСЬЦІ ДА ІХ

**Прамінулыя мясцовыя выбары былі першай кампаніяй барацьбы "за душы людзкія" ў, так-бы мовіць, палявых умовах, у якой Партыя БНФ удзельнічала ўпершыню за 8 гадоў. Натуральна, тое, што адбывалася, назваць нармальнымі выбарамі немагчыма. І тым ня меньш мы ўвязаліся ў бойку і не шкадуем.**

## Хада выбарчае кампаніі.

Фронт вызначыў для старту ў выбарчай кампаніі 207 чалавек. Гэта было нялёгка: ілюзыяў наконт перамогі ніхто ня меў, рызыка страціць працу ці месца ва ўнівэрсытэце відавочная, а значыць, пагадзіліся ўдзельнічаць самыя сьведамыя, самыя ахвярныя. Ня ўсім ім улады зарэгістравалі групы збору подпісаў, і да кандыдацкае рэгістрацыі дайшло менш. Яшчэ менш засталося ў выніку адмовы ў рэгістрацыі. Чаму? Падам два прыклады. Дырэктару Беларускага гуманітарнага ліцэю, старшыні Аргкамітэту Сходу беларускай інтэлігенцыі Уладзімеру Коласу адмовілі, бо не падаў у падатковай дэкларацыі суму ў 600 рублёў ($0,35) - ганарар за выступ у пэдагагічным унівэрсытэце, дарэчы, не атрыманы. Казаць "сам вінаваты" не выпадае, бо ён не атрымаў гэтыя грошы, а значыць, не падпісваўся й ня меў іх як даходу.

Выкладчыка гімназіі, гісторыка Аўгена Калубовіча зьнялі за дзень (!) да выбараў, бо па ягонай акрузе былі раскіданыя ўлёткі з заклікам галасаваць за кандыдатаў ад Партыі БНФ (без імёнаў), а значыць, ён карыстаўся матэрыяльнаю падтрымкаю Фронту, што забаронена.

Падчас самых выбараў для фальсыфікацыі выкарыстоўваліся найперш г.зв. папярэдняе галасаваньне. Скрынкі для гэтага пяцідзённага галасаваньня ўначы кантраляваць немагчыма, і ўлады падмяняюць іхнае зьмесьціва ў ноч напярэдадні дня ўласна выбараў. У менскай акрузе №29 сутыкнуліся цяперашні старшыня Менскага гарадзкога савету Папкоўскі ды кандыдатка ад партыі БНФ Ілона Урбановіч-Саўка.

У дзень галасаваньня за Папкоўскага было 38,1%, за Саўку 31% галасоў, і меўбы быць другі тур. Дарэчы, акруга для нас цяжкая, заселеная вайсковымі пэнсыянэрамі. Калі-ж паглядзець на вынікі папярэдняга галасаваньня, добра відаць, што бюлетэні за Папкоўскага абсалютова пераважаюць (79%) і толькі для прыліку пакінутыя сем галасоў (0.42%) за Ілону Саўку. Гэтую статыстыку маем дзякуючы сумленнасьці ўчастковай камісіі, што ў Менску было выняткам: у бальшыні яны адмаўляліся лічыць асобна вынікі папярэдняга галасаваньня.

## Вынікі

Матэматычны вынік кампаніі для Фронту наступны: 20 дэпутацкіх мандатаў, яшчэ 10 чалавек выйшлі ў другі тур, але там ужо не перамагалі, і яшчэ 15 не далі перамагчы сваім "вертыкальным" супернікам (у такіх акругах павінны адбыцца паўторныя выбары). 45 з 151 зарэгістравана, г. зн. 30% - вынік, за які нам ня сорамна.

Але галоўны вынік - у іншым. Г. зв. незалежныя сацыёлягі (з тых, што сьцьвярджаюць, нібыта па-беларуску гавораць 3% беларусаў) запэўнівалі, што партыі наагул, і Фронт у прыватнасьці, падтрымлівае 2-4% грамадзтва. І нашыя актывісты нават пачыналі гэтаму верыць. Як-жа яны натхняліся, пераканаўшыся: людзі хочуць чуць Фронт, калі Фронт прыходзіць да іх!

Сапраўды, упершыню за некалькі апошніх гадоў мы ладзілі кампанію ня ў форме раскіду ўлётак (хаця й гэта было) ды ня ў кшталце мітынгаў. Мы пайшлі да людзей-ад дзьвярэй да дзьвярэй. Балазе нават лукашэнкаўскі закон дазваляе гэта рабіць падчас выбарчае кампаніі. Агулам фронтаўцы абышлі 50-100 тысячаў кватэраў. І натуральна, ня ўсюды была доўгая і вычарпальная размова. Часам людзі не хацелі гаварыць пра палітыку наагул; часам, пачуўшы, што мы з БНФ, казалі: мы й так за вас, схадзеце лепш да суседзяў. Вось гэтыя размовы з "суседзямі" і ёсьць галоўны вынік, які яшчэ прынясе свой плён.

Хто з фронтаўцаў перамог? У Горадні - Сяржук Антусевіч, малады лідэр Свабоднага прафсаюзу прадпрыемства "Азот"; у Наваполацку - таксама прафсаюзны лідэр з "Нафтану" Васіль Главацкіх; у Менскім раённым савеце ўтварылася фракцыя БНФ, і падменскія фронтаўцы ўжо пасьпелі "паказаць зубы", схіліўшы савет прагаласаваць супраць далучэньня выгодных земляў да Менску. Гэтыя дэпутаты набываюць ведамасьць і папулярнасьць як абаронцы інтарэсаў людзей, а зь імі разам такі імідж аднаўляе і Партыя БНФ. Тры фронтаўцы на чале са старшынём Менскай абласной арганізацыі Алесем Міхалевічам сфармавалі фракцыю ў Пухавіцкім райсавеце, спадзяюцца перавабіць і далучыць некалькі "незалежных". Маем дэпутатаў ў Барані, Бабруйску, Магілеве, Мастох, Слоніме, Полацкім, Вялейскім, Маларыцкім раёнах, у мястэчках Менскага раёну. (гл. дыяграму)

Каюся: паводле маіх прагнозаў, у саветы розных узроўняў ад БНФ маглі трапіць 2-5




чалавек, дый тое выпадкова, там, дзе былі канфлікты паміж групоўкамі намэнклятуры. Канчатовы вынік паказвае: улада ўжо не мае рэсурсу трымаць кантроль над краінаю. Менск, вядома, яшчэ адрозны ад краіны, але і там, дзе гэта было магчыма, бараніліся, як апошнюю фартэцыю; але ў рэгіёнах, відаць, не чакалі такое перавагі БНФ.

І яшчэ адна выснова. У малых мясцовасьцях, дзе ўсе ўсіх ведаюць, сябрам камісіяў было сорамна хлусіць. Пэўна, у іхных галовах быў выбар ці слухацца "вэртыкальнага" загаду й браць грэх на душу, ці застацца сумленнымі, бо хто ведае, як што неўзабаве складзецца. Вартыя павагі ўсе тыя фронтаўцы, хто вырашылі пайсьці на выбары. Яны ішлі дзеля ідэі, дзеля змаганьня, каб данесьці нашую праўду да тысячаў людзей. І не магу дакараць тых, хто адступіўся. Цяжка вінаваціць, прыкладам, кандыдатку, чыёй сястры на дзяржаўнай працы сказалі: "Калі яна не здымецца, звольнім цябе" (гэта было ў Менску).

## Тэхналёгіі

Як спалучыць гутарку на мясцовыя тэмы - выбары-ж мясцовыя - і размову на сур'ёзныя палітычныя тэмы, перадусім пра лёс нашае незалежнасьці? Гэта было галоўнаю задачаю для нас, і , здаецца, мы выпрацавалі адпаведную тэхналёгію.

Нашым унівэрсальным споклічам было: "Партыя БНФ - эўрапейскі дабрыбыт і парадак". "Саюзная" дэмагогія Лукашэнкі вымагае прынцыповай альтэрнатывы. Адзіна магчымае "альтэрнатыўнае" выйсьце для Беларусі - гэта ўступ у Эўрапейскі Зьвяз (дарэчы, тут ужо самыя розныя сацыёлягі пагаджаюцца: ад 60% да 70% беларусаў віталі-б гэты ўступ, а сярод недзяржаўных элітаў - ажно 95%). Ясна, што ЭЗ - гэта процівага Расеі ў многіх пытаньнях: дабрабыт, заробкі, працавітасьць, уладкаваны побыт… Такой мы апісвалі незалежную эўрапейскую Беларусь, да якой імкнецца Партыя БНФ.

## Які ў нас электарат?

Два канкрэтныя здарэньні, сьведкам і удзельнікам якіх быў я сам. У Бярозе фронтавец, інжынер Сяржук Русецкі пайшоў у два Саветы - раённы й абласны. На посьпех у апошнім ён не спадзяваўся: абласныя саветы моцна фільтруюцца, апроч таго, акругі надта вялікія, цяжка, ня маючы грошай і транспарту, аб'ехаць.

На сустрэчы з выбарнікамі ў Бярозе, дзе быў і я, нам зь Сяржуком задавалі шмат разумных пытаньняў - пра эканоміку, мясцовае самакіраваньне, дзяржаўны лад - нейкі чалавек. Пасьля сустрэчы высьветлілася, што ён - старшыня акруговае камісіі. Вельмі падзякаваў за адказы, а галоўнае - уразумеў, што мы ня маем дачыненьня да лістоў старшыням і сябрам выбарчых камісіяў, дзе ім пагражаюць - не за магчымыя фальсыфікацыі, што было-б лягічна, а за сам факт удзелу ў камісіях. Ім усім "у вобласьці" сказалі, што гэта БНФ такія лісты рассылае, і чалавек быў ўсьцешаны, што ня маем да лістоў дачыненьня.

Вынік быў праз колькі тыдняў. На бальшыні ўчасткаў гэтай акругі камісіі лічылі сумленна. Сяржук набраў каля 40%, гэтулькі сама - ягоная "вэртыкальная" суперніца, якая цяпер уваходзіць у г. зв. "савет рэспублікі" - верхнюю камору "Нацыянальга сходу". Значыць, выбары не адбыліся, "сэнатарка" не прайшла!

Падобны вынік - у вёсцы Малеч. Там на сустрэчу з кандыдатам ад БНФ, тутэйшым інжынэрам Анатолем Сахарушам прыйшло 12 чалавек, усіх іх старанна перапісалі супрацоўнікі ўправы мясцовага калгасу. Але яшчэ сотня вяскоўцаў стаяла наводдаль - і ўдзень выбараў яны паказалі, што пераадольваюць страх: Сахаруша ня даў перамагчы "вэртыкальнаму " канкурэнту.

Кампанія дала адказ на адно спрэчнае пытаньне (ці разьвеяла аблуду?). Дарадцы - сацыёлягі й ня толькі - пераконвалі, што толькі г. зв. незалежныя кандыдаты маюць шанцы, што народ ня верыць партыям. Вось-жа калі ў адной акрузе сутыкаліся кандыдат ад улады, сябра БНФ і г. зв. "незалежны", пры ўсіх фальсыфікацыях фронтавец альбо перамагаў, альбо займаў другое месца, апярэджваючы "незалежнага". Так было і ў Менску, і па ўсёй краіне. Яшчэ адна практычная лекцыя - вельмі станоўчае стаўленьне людзей да беларускае мовы вуснай агітацыі ды ўлётак. Аляксей Янукевіч, 27-гадовы эканаміст, старшыня камісіі партыйнага навучаньня БНФ, вёў кампанію выключна па-беларуску (адрозна ад іншых партыяў) і ўзяў - пры ўсіх фальсыфікацыях - 30 %. Гэта максымум, які ў Менску атрымаў апанэнт улады.

## Байкот ці ўдзел

Байкатавалі выбары ў г. зв. палату прадстаўнікоў у 2000-м годзе. Байкот тады рэальна адбыўся: у Менску, у бальшыні вялікіх і сярэдніх гарадоў на выбары прыйшло менш за палову; іншая рэч, што ўлады сфальсыфікавалі адсотак яўкі.

Галоўнаю мэтаю байкоту было не дапусьціць прызнаньне "палаты прадстаўнікоў", як і ўсяе канфігурацыі ўлады ўзору 1996-га году на міжнародным узроўні. Гэта ўдавалася да 2001-га году. На жаль, пасьля прэзыдэнцкіх выбараў эўрапейскія й міжнародныя арганізацыі пачалі пацішку прызнаваць de facto лукашэнкаўскія нават творы. Наш удзел ці наўдзел у мясцовых выбарах не мяняў нічога з гледзішча міжнароднай легітымнасьці цяперашняе ўлады. Таму пасьля доўгіх нутраных дыскусіяў мы вырашылі ўдзельнічаць.

Лягічнае пытаньне: калі мы ўдзельнічалі, ці вынікае з гэтага прызнаньне канстытуцыйнага перавароту 1996-га году? Аднак - не, не вынікае. Сябры БНФ, якія сталі дэпутатамі мясцовых саветаў, легітымныя двойчы, калі ня тройчы. Іх ня проста выбралі людзі. Яны прараваліся празь некалькі бар'ераў і фільтраў, якія перад імі ставіла ўлада: адмова ў рэгістрацыі, інфармацыйная блякада, паклёп, уціск на працы, урэшце, фальсыфікацыі падчас галасаваньня. А саветы, створаныя ў бальшыні гарадоў, мы ня можам лічыць сфармаванымі на падставе свабодных, справядлівых, роўных і празрыстых выбараў.

Гэтаксама не зьмянілася нашае стаўленьне да "палаты прадстаўнікоў": яна ня ёсьць парляментам і не мае права ратыфікаваць жыцьцёва важныя для Беларусі міжнародныя пагадненні. Было-б добра, каб хоць хто з чальцоў "палаты" падтрымліваў дэмакратыю і незалежнасьць. На жаль, гэтага няма.

Ясна, што пры захаваньні цяперашняга выбарчага заканадаўства й антыдэмакратычнае практыкі выбары "палаты" будуць татальным фарсам. Таму трэба змагацца за яго зьмену. Рыхтаваць грамадзтва да пратэстнае абароны сапраўдных вынікаў. Працаваць зь сябрамі камісіяў: ня ўсе зь іх безагляднa служаць рэжыму. Прадумваць "экстрымальнае" назіраньне за выбарамі, якое істотна абмяжуе фальсыфікацыю. Як у Наваполацку, калі фронтаўцы праседзелі перадвыбарчую ноч у машыне ля будынку, дзе былі выбарчыя ўчасткі.

Тактычная перспэктыва пасьля выбараў для нас відавочная. Фронтаўцы, натхнёныя посьпехам, а галоўнае - людзкім разуменьнем, прагнуць змагацца за "душы людзкія" далей. Таму будзем рыхтавацца да "палатных" выбараў 2004-га году. Трэба, каб нашыя кандыдаты былі на слыху ўжо цяпер, каб рабілі карыснае для сваёй мясцовасьці, каб апраўдвалі ведамую ў краіне пагалоску "бээнэфаўцы не баяцца начальства". Аднымі мітынгамі тут не абыдзешся. Трэба ўмець змабілізаваць людзей на абарону іхных надзённых інтарэсаў: удзел працаўнікоў у прыватызацыі буйных заводаў, змаганьне з карупцыяй мясцовага начальства і падобнае.

Галоўная небясьпека - рэфэрэндум пра "канстытуцыйны акт саюзнай дзяржавы" й трэці тэрмін прэзыдэнцтва для Лукашэнкі, які могуць правесьці сёлета ўзімку. Цяпер я бачу адзінай зброяй супраць гэтага незаконнага замаху на нашу дзяржаву і свабоду - байкот. Але спадзяюся, што Пуціну да сваіх выбараў можа быць ня гэтак патрэбны чарговы імпэрскі трыюмф: ён пераможа й безь яго.

А вось на наступны тэрмін прэзыдэнцтва яму можа спатрэбіцца "новая дзяржава". Гэтаксама "ўзаконены" трэці тэрмін для Лукашэнкі Маскве ня надта патрэбны, бо абмяжоўвае магчымасьці цалкам Лукашэнкам кіраваць. Але калі ўсё-ж да рэфэрэндуму дойдзе, нам вельмі спатрэбіцца дзейсны мэханізм доступу да кожнага чалавека. Такім наладжаным мэханізмам у выніку мясцовае кампаніі становіцца Партыя БНФ.

Наагул, гэта кампанія - пачатак вялікае стратэгічнае працы Фронту дзеля вяртаньня людзкога даверу. Бо калі народ будзе даваряць канкрэтным фронтаўцам, будзе да іх прыслухоўвацца, - пачуе галоўную фронтаўскую ідэю: без незалежнасьці ня будзе ані дабрабыту, ані самой будучыні.

***Вінцук ВЯЧОРКА***

***Менск, турма на вул. Акрэсьціна, камэра №18****

**падчас напісаньня гэтага артыкулу сп. Вячорка адбываў пакараньне за арганізацыю акцыі на 25-га Сакавіка.*

# Беларусь за месяц

## 25 Сакавіка ў Менску

На жаль, дзяленьне беларускай апазыцыі на дробненькія групоўкі працягваецца. Так і ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі вырашылі правесьці паасобку.

У нядзелю, 23-га сакавіка, сваю акцыю зладзілі Нацыянальны аргкамітэт, прыхільнікі КХП - БНФ і маладафронтаўцы. Збор удзельнікаў быў прызначаны ў раёне Пляцу Незалежнасьці - хтосьці зьбіраўся ў раёне Галоўпаштамту, хтосьці - ля Чырвонага Касьцёлу. Міліцыя-ж праз гукаўзмацняльнікі настойліва "раіла" ісьці на зьненавіджаную ўсімі плошчу Бангалёр, бо ў цэнтры гораду сьвяткаваньне было забароненае. Аднак дэманстранты не паслухаліся.

Акцыя трывала ня больш за 15 хвілін. Калі дэманстранты - блізу 200 чалавек разам з рэпарцёрамі - рушылі па праспэкце ў бок Кастрычніцкай плошчы, то ўжо на першым скрыжаваньні, з вуліцаю Валадарскага, міліцыя хуценька перакрыла ім рух і арыштавала некалькі дзесяткаў чалавек (пад гарачую руку трапілі й журналісты). Трэба сказаць, што затрыманьні былі й да пачатку акцыі. Так, арыштавалі некалькі чалавек, што знаходзіліся ля муроў Чырвонага Касьцёлу.

25-га сакавіка прайшоў "другі раўнд" сьвяткаваньня Дня Волі. Гэтым разам зьбіраліся сябры Партыі БНФ ("вячоркаўцы"), Аб'яднаныя сацыял-дэмакраты, іх апанэнты зь Беларускай сацыял-дэмакратычнае "Народнае Грамады" прадстаўнікі Асамблеі Няўрадавых Дэмакратычных Арганізацыяў ды іншыя. А палове на шостую на Плошчы Якуба Коласа сабралася - зноў-такі разам з журналістамі - каля 300 чалавек. Міліцыя, як і двума днямі раней, настойліва раіла пайсьці на Плошчу Бангалёр. Ускладаўшы кветкі да помніка аўтару "Новай зямлі", ўдзельнікі акцыі вырашылі дайсьці з кветкамі да парку Янкі Купалы. Аднак два дзесяткі міліцыянтаў спакойна адцяснілі ўсіх мітынгоўцаў да пераходаў мэтро. У гэты дзень таксама адбыліся затрыманьні.

Увечары ў традыцыйным месцы збору беларускай інтэлігенцыі Доме культуры "Сукно" прайшоў урачысты сход і канцэрт.

Аналізуючы акцыі, можна ўпэўнена сьцьвердзіць, што яны прайшлі крайне няўдала, ці не найгоршае сьвяткаваньне асноўнага нацыянальнага сьвята за апошнія 10-15 гадоў. Гэта тычыцца і вулічных акцый, і ўрачыстага сходу. На ім у каторы раз зачытваліся факсы, выступалі, у каторы раз сьцьвердзячы, што гіне Беларусь, тыя-ж самыя выступоўцы, якія ўжо не сыходзяць з трыбунаў па некалькі гадоў.

У гэтым пляне паказальны зварот Салігорскай рэгіянальнай суполкі Партыі БНФ, якая на сваім сходзе прыняла рашэньне "лічыць неэфектыўнаю працу Арганізацыйнага камітэту па сьвяткаваньні 85-годзьдзя БНР". Падпісанты ліста адзначылі, што "Аргкамітэт ня здолеў аб'яднаць дэмакратычныя сілы для такой маштабнай падзеі", з сумам нагадаўшы, што калісьці самае галоўнае нацыянальнае сьвята зьбірала дзясяткі тысячы ня толькі "апазыцыянераў", але і "простых" грамадзянаў. Салігорскія дэмакраты зазначылі, што сёньняшнія лідэры дэмакратычных сілаў дбаюць больш пра ўласныя амбіцыі, чым пра справу.

Пераважную большасьць затрыманых удзельнікаў акцыяў асудзілі на 15 сутак арышту.

## "За лепшае жыцьцё!"

А пачалася Вясна-2003 "Агульнанацыянальным Народным маршам "За лепшае жыцьцё", які быў праведзены 12-га сакавіка грамадзкаю ініцыятываю "Хартыя-97" і ейным маладзёвым крылом - рухам "Зубр". Па ацэнках журналістаў, на Плошчы Якуба Коласа сабралося 4 тысячы чалавек, хоць арганізатары акцыі заяўлялі пра тое, што зьбярэцца сама мала 5 тысяч. Паколькі акцыя меркавалася як санкцыяльная, то і лёзунгі былі адпаведныя: "Хопіць рабаваць народ!", "Ніжэйшыя падаткі - ніжэйшыя кошты" і інш.

Арганізатары акцыі прынялі нестандартнае рашэньне - пайсьці на Плошчу Бангалёр акольнымі шляхамі. Напачатку ў процілеглы ад злашчаснай плошчы бок: па праспэкце Скарыны да Плошчы Незалежнасьці, затым па вуліцы Савецкай да Нямігі, а там ужо і па вуліцы Багдановіча да Бангалёру. Міліцыя хуценька зарыентавалася ў сытуацыі й "прапанавала" пайсьці на Бангалёр найкарацейшым шляхам, па праспэкце Скарыны й вуліцы Сурганава. Аднак запалу арганізатараў хапіла толькі дайсьці пад бразгат пустых рондалаў і місаў да пляцоўкі перад Прэзыдыюмам Нацыянальнай Акадэміі Навук, дзе і прайшоў кароценькі мітынг.

Міліцыя, да ейнага гонару, паводзіла сябе даволі карэктна, нягледзячы на тое, што ў дварах праспэкта Скарыны стаяла процьма аўтобусаў з закратаванымі шыбамі. Арыштавалі толькі заяўнікаў акцыі - Зьмітра Бандарэнку, Леаніда Малахава, Людмілу Гразнову, Андрэя Саньнікава, якіх на наступны дзень і асудзілі на 15 сутак.

Пасьля адбыцьця 15 сутак, Зьміцер Саьнікаў даў інтэрв'ю сайту "Хартыі'97", дзе ахрысьціў "Народны марш" найбуйнейшай акцыяй апазыцыі апошніх гадоў.

## Чарнобыльскі шлях

Як і мінулыя гады, Чарнобыльскі шлях пройдзе 26-га красавіка. Гэтым разам у аргкамітэт па сьвяткаваньні ўвайшлі прадстаўнікі 11 партый. Удзельнікі будучай акцыі падалі ў Менгарвыканкам заяву, дзе просяць уладу дазволіць правядзеньне акцыі не на Плошчы Бангалёр, а на прыступках Опэрнага тэатра (Плошча Парыскай Камуны). Ініцыятары "Шляху" катэгарычныя. Яны заяўляюць, што калі Менгарвыканкам адмовіць, а так, хутчэй за ўсё, і будзе, то ўсё роўна ўдзельнікі акцыі зьбяруцца на Плошчы Якуба Коласа і па праспэкце Скарыны й вуліцы Купалы дойдуць да Опэры, дзе правядуць жалобны мітынг. Адно засмучае - колькасьць меркаваных удзельнікаў. Заяўнікі зьбіраюцца сабраць тысячу чалавек.

## Мажэйку вызвалілі

Пасьля таго як рэдактара газэты "Пагоня" Міколу Маркевіча перавялі з Асіповіцкай "хіміі" ў Горадню, дзе давядзецца працаваць, сплочваючы 15 працэнтаў зароблку, настала чарга і ягонага калегі Паўла Мажэйкі. Яго таксама вызвалілі датэрмінова. Журналіст ужо вярнуўся ў родную Горадню, дзе стаў на ўлік у Цэнтры сацыяльнай адаптацыі асуджаных. "Сачыць" за ім будуць на працягу гэтага і наступнага году. Але-ж галоўнае - вызвалілі. Цяпер Мажэйка і Маркевіч думаюць над заснаваньнем новай грамадзка-палітычнай газэты.

Цяпер уладам засталося вызваліць рэдактара "Рабочага" Віктара Івашкевіча.

## Сход інтэлігенцыі

16-га сакавіка ў Менску, у Доме культуры "Сукно", прайшоў Усебеларускі сход беларускай інтэлігенцыі. На форуме, які сабраў некалькі сотняў дэлегатаў з розных куткоў краіны разважалі пра гістарычны лёс Беларусі, удзел інтэлігенцыі ў гэтым працэсе, пагрозу страты незалежнасьці, бядотнае становішча беларускай эканомікі й безьліч іншых праблемаў.

Вялікая колькасьць дэлегатаў ня здолела прыехаць у Менск. Па афіцыйнай вэрсіі, бракавала сродкаў - сход праводзіўся за ўласны кошт удзельнікаў. Аднак, відаць, пабаяліся рэпрэсіяў.

Удзельнікі форуму прынялі зварот да Аляксандра Лукашэнкі, каб той спыніў дыктатарскае праўленьне і распачаў канструктыўны дыялог з прадстаўнікамі ўсіх палітычных плыняў. Дэлегаты выказаліся супраць працягу паўнамоцтваў прэзыдэнта пасьля 2006-га году, паабяцаўшы зрабіць усё, "каб выбары новага парляманту ў 2004-м годзе і новага прэзыдэнта ў 2006-м годзе адбыліся паводле новага Выбарчага кодэксу і ў адпаведнасьці з міжнароднымі стандартамі, без махінацыяў і падтасовак". Удзельнікі сходу выказалі рашучы пратэст супраць "любых спробаў здачы незалежнасьці, дзяржаўнага сувэрэнітэту краіны, дыскрымінацыі беларускай мовы" і інш.

Таксама было прынятае рашэньне аб стварэньні "Рады беларускай інтэлігенцыі". У склад Рады, якая складаецца з 9 чалавек, прапанавана 14 "вядомых дзеячаў навукі й культуры", ці як было заяўлена на Сходзе - аксакалаў. Гэта - пісьменьнікі Сьвятлана Алексіевіч, Вольга Іпатава, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, драматург Алесь Петрашкевіч, кінарэжысёр Юры Хашчавацкі, навукоўцы Радзім Гарэцкі, Анатоль Грыцкевіч, Генадзь Лыч, Адам Мальдзіс і Іван Нікітчанка. Як будзе адбывацца гэты адбор? Як і ў старыя савецкія часы: "пасьля шырокага народнага абмеркаваньня". Затым "адбудзецца ўрачыстая цырымонія пасьвячэньня сябраў Рады з запрашэньнем прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, а таксама сродкаў масавай інфармацыі".

Цікава, што ў сваім артыкуле ў "Народнай Волі" за 10-га красавіка Ніл Гілевіч адмовіўся ад "пачэснай місіі" й увогуле паставіў пад сумнеў легітымнасьць Рады, справядліва зазначыўшы: а што тады Аргкамітэт Рады?

## Абрабавалі офіс ТБМ

У ноч з 29-га на 30-га сакавіка няведамыя злодзеі праніклі ў менскую штаб-кватэру Таварыства Беларускай Мовы. Бандыты скралі вінчэстэр з падрыхтаваным нумарам газэты "Новы час", які цалкам быў прысьвечаны вынікам Усебеларускага Сходу беларускай інтэлігенцыі. Міліцыя завяла па гэтым факце крымінальную справу.

## Маладафронтаўцы бароняць Сіўчыка

"Малады Фронт" на пачатку красавіка распаўсюдзіў заяву, у якой запатрабаваў спыніць перасьлед аднаго зь лідэраў апазыцыі Вячаслава Сіўчыка. У гэты час В. Сіўчык адседжваў 15 сутак за арганізацыю акцыі на Дзень Волі 23-га сакавіка. Маладафронтаўцы заявілі, што Сіўчык ня толькі перасьледуецца міліцыяй, але і некаторымі дзеячамі апазыцыі, у прыватнасьці, былымі паплечнікамі па БНФ.

Між тым можна казаць пра чарговыя праблемы ў Партыі БНФ. Маладафронтаўцаў - прыхільнікаў Паўла Севярынца, "папрасілі" больш не зьбірацца ва Ўправе БНФ. Не на карысьць гэта нацыянальнага руху.

## Новікаву пашкадавалі

3-4-га красавіка ў Менску прайшоў чарговы палітычны працэс. Гэтым разам над прадпрымальніцаю 29-гадоваю Аксанаю Новікавай, якая была затрыманая 17-га кастрычніка за распаўсюд антыпрэзыдэнцкіх улётак на Кастрычніцкай плошчы. Маладой жанчыне інкрымінавалі злачынства, прадугледжанае часткаю 2 артыкула 367 - паклёп у дачыненьні прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь (па гэтым артыкуле былі асуджаныя Маркевіч, Мажэйка і Івашкевіч). На ўлётцы Новікавай быў зьмешчаны партрэт Лукашэнкі і подпіс: "Адшукваецца небясьпечны злачынца!" Далей прыводзіўся сьпіс злачынстваў прэзыдэнта.

Новікаву прысудзілі да двух гадоў пазбаўленьня волі з адтэрміноўкаю на два гады.

## Пятро Краўчанка ідзе ў прэзыдэнты

У канцы сакавіка колішні міністар замежных справаў і беларускі амбасадар у Японіі Пятро Краўчанка даў некалькі інтэрв'ю журналістам, у якіх заявіў аб прэтэнзіях на прэзыдэнцкі фатэль на выбарах у 2006-м годзе. Нагадаем, што 1-2-га сьнежня 2002-га году дзяржаўнымі СМІ й Міністэрствам замежных справаў была растыражаваная інфармацыя, што Краўчанка зьнік са свае амбасады ў Японіі ў кірунку амэрыканскае. Пятро Краўчанка праз дзень адрынуў усе абвінавачаньні, назваўшы гэта правакацыяй.

Цяпер брудам палiваюць Краўчанку як дзяржаўныя СМІ, так і "палітыкі-дэмакраты", а якжа ж - канкурэнт! Вядомы гісторык Анатоль Сідарэвіч у "Нашай Ніве" выказаў свой погляд на колішняга прадстаўніка Беларусі пры ААН: "Зрабіўшы важную заяву, экс-міністар можа ўзяць тайм-аўт. Хадзіць на выставы, у тэатры, кнігарні, майстэрні. Іншых палітыкаў на вяроўцы туды не зацягнеш. А Краўчанка ўмее размаўляць зь інтэлігенцыяй. І інтэлігенцыя Пятра Краўчанку паважае".

*Уласны карэспандэнт*

# АДЧУВАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЕДНАСЬЦІ

У Менску адбыўся ўрачысты вечар, прысьвечаны 85-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР. На жаль, толькі некалькі сотняў чалавек сталі відавочцамі гэтай цікавай і важнай падзеі. Не знайшла яна адлюстраваньня і на старонках СМІ. Таму я хацеў-бы падзяліцца сваімі ўражаньнямі з чытачамі "БЕЛАРУСА".

Арганізатарам вечарыны ў ДК "Сукно" выступіў Аргкамітэт па сьвяткаванні гадавіны, у які ўвайшлі МГА "Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", Беларускі Гэльсінскі Камітэт, Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя БНФ, Аб'еднаная Грамадзянская партыя. Узначаліў камітэт народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў.

Распачалося мерапрыемства выкананьнем гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які яшчэ завецца "беларускаю марсэльезаю". Вядучая вечару - жывая легенда айчыннага тэлебачаньня і беларускага адраджэнцкага руху Зінаіда Бандарэнка. Усе зь задавальненьнем слухалі аудыё-віншаваньні з Прагі ад Васіля Быкава і Івонкі Сурвілы.

З урачыстымі прамовамі выступалі прэзыдэнт "Згуртаваньня Беларусаў Сьвету" Бацькаўшчына" прафэсар Анатоль Грыцкевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі. Палымяную і, як заўсёды, злабадзённую публіцыстыку народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча зала вітала ўжо стоячы.

Урачысты сход сабраў ведамых грамадзкіх і палітычных дзеячаў, навукоўцаў: акадэміка-беларусіста Адама Мальдзіса, лідэра сацыял-дэмакратычнай партыі Станіслава Шушкевіча, паэта Сяргея Законьнікава, Старшыню Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны Алега Трусава, навукоўца-гэральдыста Леаніда Акаловіча... Асабліва прыемна, што ў зале было шмат моладзі.

Усьлед за афіцыйнаю часткаю распачалася музычная імпрэза, якая магла задаволіць густ кожнага прысутнага. На сцэне з посьпехам выступалі: славуты фальклёрны гурт "Ветах" зь вясновымі песьнямі й карагодамі, легенда беларускага абрадавага фальклёру гурт "Ліцьвіны", гурт сярэднявечнай беларускай музыкі "Стары Ольса", мужчынскі хор "Унія" з творамі беларускіх кампазытараў мінулага і сучаснасьці, а таксама лаўрэат міжнародных конкурсаў тэатр танца "Карагод".

Вечарына набліжалася да заканчэньня, а пакідаць гэтую "казку" зусім не хацелася. Бо ў гэтыя паўтары гадзіны душэўнага яднаньня мы адчулі сябе НАРОДАМ - БЕЛАРУСАМІ!

Над заляю луналі бел-чырвона-белыя сьцягі й панаваў па-сапраўднаму сьвяточны настрой. На развітаньне прысутныя разам з "Уніей" прасьпявалі гімн нацыянальнага Адраджэньня на музыку Міколы Равенскага і словы Натальлі Арсеньевай "Магутны божа".

Дык будзьма-ж вернымі ідэалам БНР!
Жыве Беларусь!

*Кастусь ЛАШКЕВІЧ, Менск*

# ВАЙНА

Прычынаў вайны ЗША на Блізкім Усходзе ёсьць некалькі. Першая - гэта стварэньне дзяржавы Ізраіль і палестына-ізраільскі канфлікт (шырэй - араба-ізраільскі канфлікт). Другая - нафта. Трэцяя - галоўная, якая вынікае зь першых дзьвух, - гэта непасрэдная пагроза Злучаным Штатам, развязваньне радыкальнымі групамі мусульманскага сьвету міжнароднай партызанска-тэрарыстычнай вайны супраць Амэрыкі.

Пасьля 11-га верасьня 2001-га году стала зразумела, што вайна Амэрыкі на Блізкім Усходзе, практычна, непазьбежная, дзеля прадухіленьня эскаляцыі тэрарыстычнай вайны. Амэрыка зразумела, што толькі сродкамі аховы, стрымліваньня і абароны яна ня зможа доўга і пасьпяхова супрацьстаяць партызанскаму тэрарызму радыкальных ісламістаў. Яна можа пацярпець у гэтай вайне, як толькі нябачны праціўнік атрымае ў свае рукі зброю масавага зьнішчэньня. Стала зразумела, што калі не прыняць хутка рашучых мераў, то нябачныя ворагі Амэрыкі завалодаюць гэтай зброяй.

Зьнішчэньне партызанскага тэрарызму радыкальных ісламістаў Усходу і ліквідацыя пагрозы амэрыканскай дзяржаве ёсьць жыцьцёвай неабходнасьцю Амэрыкі. Ня кажам ужо пра тое, што пэрманэнтныя абарончыя меры каштуюць дорага і не гарантуюць ад ахвяраў.

Першым чынам трэба было ліквідаваць асяродкі тэрарызму і рэжымы, якія маглі стаць базаю для тэрарызму і крыніцаю атрыманьня зброі масавага зьнішчэньня.

Гэтак адбылася вайна з талібамі ў Аўганістане. Гэтак пачалася і небясьпечная вайна ў Іраку (фармальна - як працяг нафтавай кувэйцкай кампаніі, якую праводзіў старэйшы Буш).

Трэба ўлічыць, што Ірак ня ёсьць тэакратычнаю ісламісцкаю дзяржаваю. Гэта у цэлым - сьвецкая краіна з даволі разьвітай навукаю і з самымі перадавымі ўнівэрсытэтамі на Блізкім Усходзе (Багдад). Ірак мае інтэлектуальныя магчымасьці стварыць зброю масавага зьнішчэньня. Тым часам дыктатура Садама Гусэйна - адна з самых жорсткіх у сьвеце. Усёпаглынаючы страх - такая ёсьць пануючая атмасфэра ў ірацкім грамадзтве.

Усе гэтыя чыньнікі плюс антыамэрыканізм Гусэйна і стан фактычнай вайны з Амэрыкай рабілі збройную інвазію ЗША ў Ірак, практычна, неўнікнёнай. (Няма таксама гарантыяў несупрацоўніцтва Аль-Каіды з Гусэйнам.) Амэрыка па-амэрыканску рэагавала на рэальную пагрозу сваёй бясьпецы.

Такая сутнасьць справы. І менавіта таму прэзыдэнт ЗША адзначыў, што для ваенных дзеяньняў супраць рэжыму Садама Гусэйна ЗША ня мае патрэбы ў згодзе Арганізацыі Аб'едненых Нацыяў і Савета Бясьпекі ААН.

Пазыцыя Заходняй Эўропы ў гэтай вайне - тыповая для эўрапейскага палітычнага філісьцерства. (Успомнім пазыцыю Чэмбэрлена ў дачыненьнях зь Гітлерам, здачу Чэхаславаччыны, Аўстрыі, Польшчы і г.д.) Гэта паводзіны здраднікаў і нікчэмных палітыкаў, схаваныя за, нібыта, "гуманнай" пацыфісцкай дэмагогіяй і подлай інфармацыйнай прапагандай.

Менавіта гэтая, прымітыўна-праўдападобная прапаганда Францыі й Нямеччыны (перш за ўсё) выклікала на вуліцы антываенныя шматтысячныя натоўпы абываталяў, якім раптам стала шкода мірных іракцаў. Пры гэтым, калі адбываўся генацыд у Чачэніі і расейскае тэрарыстычнае войска вынішчала мірнае чачэнскае насельніцтва, тады нешта не відаць было гэтых "міралюбівых" натоўпаў, ня гледзячы, што і чачэнцы, і ўсе сумленныя людзі ўвесь час даводзілі інфармацыю пра генацыд у Чачэніі да сусьветнай грамадзкасьці, а ўрады ЗША і Заходняй Эўропы проста кінулі, прадалі чачэнцаў, дзеля прагматычных інтарэсаў з Расеяй. Цяпер гэтыя ахвяры масавай прапаганды пад лямант з Парыжу і Бэрліну масава выяўляюць сваю нянавісьць да Амэрыкі (якой, дарэчы, абавязаны й сваім эўрапейскім мірам, і сваім мяшчанскім дабрабытам. Я маю на ўвазе канец Другой Сусьветнай вайны, плян Маршала, НАТО, перамогу ў халоднай вайне і г. д.). Нават расейскі прэзыдэнт Пуцін - спраўца масавых забойстваў чачэнцаў (і няверны прыяцель Амэрыкі) - выступіў у абарону Садама Гусэйна, пралівоючы кракадзілавыя сьлёзы па ахвярах вайны. (Ужо хто-б што казаў пра ахвяры й "права сілы" - толькі ня Пуцін.)

І немцы, і французы, і расейцы шмат уклалі сродкаў у ірацкую нафту і эканоміку. (Якія там "ідэі", "гуманізм", "дэмакратыя"! Кожны ратуе свае грошы.) Ініцыятыва амэрыканцаў падважыла-б валюту "эўра" і самую ідэю пабудовы новай супэр-імпэрыі ў Эўропе (так званы Эўразьвяз). І раптам гэтак усё агалілася, фактычна, раскалолася НАТО, а Францыя, Нямеччына, Бэльгія, Люксэмбург зьбіраюцца арганізаваць свой ваенны блёк, сваю "абарону Эўропы". Тут-жа стварылі вось Парыж-Бэрлін-Масква і, амаль не хаваючыся, пачалі дамаўляцца пра новы перадзел Эўропы на "сфэры ўплыву" (справа йдзе, перш за ўсё пра Беларусь, Украіну і Польшчу, краіны Балтыі, былую Усходнюю Прусію - цяперашнюю Калінінградзкую вобласьць).

Як бачым, усё у каторы раз у гісторыі - паўтараецца. Як толькі аб'ядноўваюцца Парыж-Бэрлін з Масквою - акупацыя, анэксыя, аншлюс, вайна не за гарамі. Усё гэта ў Эўропе ўжо праходзілі. Выступленьне-ж супраць Амэрыкі - гэта самае горшае, да чаго маглі дадумацца цяперашнія ўрады Эўропы.

Характар цяперашняй амэрыканскай вайны на Блізкім Усходзе - зусім іншы, чым папярэдні. Дзеяньне разгортваецца паволі, на выбраных тэрыторыях, авіяналёты ня носяць масавага характару, усё накіравана на як найменшыя страты цывільнага насельніцтва. Тым часам (на першы погляд, парадокс) прыхільнікі Гусэйна, на баку якіх, быццам-бы, маральнае права абароны радзімы, самыя страляюць у сваіх мірных уцекачоў і правакуюць ахвяры насельніцтва, каб паказаць па тэлебачаньні й выставіць у дрэнным выглядзе амэрыканцаў ды выклікаць да сябе спачуваньне ў сьвеце. Вайна - ня толькі крывавая, але і брудная справа.

Як мы, беларусы, павінны адносіцца да гэтай вайны?

Ва ўсіх войнах церпяць нявінныя мірныя людзі. Гэта ёсьць найгоршы бок вайны. Таму за вайною павінен быць міжнародны кантроль, дапамога пацярпелым і мірнаму насельніцтву. Мы не павінны заставацца ўбаку ад агульналюдзкай салідарнасьці й дапамогі людзям.

Што датычыць самога канфлікту. Мы ня мусім у ім удзельнічаць ні ў якой форме. Але мы павінны ведаць, што ў нашых беларускіх інтарэсах, каб Амэрыка як найхутчэй перамажна закончыла вайну. У гэтым сэнсе нам трэба прызнаць рацыю амэрыканскага боку, зразумець, што амэрыканскае бачаньне будучыні ў інтарэсах ня толькі Амэрыкі, але і ўсяго цывілізаванага сьвету. У тым ліку - і незалежнага Іраку.

Пазыцыя немцаў і расейцаў - галоўных ворагаў нашай беларускай незалежнасьці - тут ведамая. Але зьвернем увагу на выказваньні цяперашніх расейскіх думальнікаў і палітыкаў. Яны кажуць, што ў іхных расейскіх інтарэсах - параза і кампрамэтацыя Амэрыкі. І тлумачаць, што параза ў вайне, аслабленьне і зьніжэньне ўплыву Амэрыкі павялічыла-б сусьветную цану на нафту (якая ўжо некалькі гадоў і так высокая). Гэта дало-б Расеі (якая прадае нафту і газ) велізарныя барышы, якія можна было-б часткова накіраваць на дадушэньне Чачэніі і захоп Беларусі, ды прыціснуць Украіну, і ўплываць на палітычныя стасункі ў Эўропе, закончыць яе перадзел на сфэры ўплыву і паставіць нагу на Блізкім Усходзе. Такую выснову можна зрабіць з выказваньняў некаторых расейскіх аналітыкаў.

Пры ўсіх недахопах, "русацяпстве" і супярэчнасьцях амэрыканскай палітыкі, не забывайма, што Амэрыка ёсьць, практычна, адзіным гарантам (бо куды Амэрыка - туды й Вялікабрытанія) нашай беларускай незалежнасьці, яна схільная рэальна дапамагчы беларусам, была-б толькі на гэта беларуская воля і беларуская сіла.

Мяркую, кожны разумее, што калі скончыцца агрэсыўная дыктатура Гусэйна і амэрыканцы прыстойна пераможуць, то рэжым прамаскоўскай сатрапіі ў Беларусі адчуе сябе няўтульна, а расейскія шавіністы ў Маскве паўстрымаюць свой агрэсыўны імпэт. Гэта дасьць шанс беларусам хутчэй скончыць з сатрапіяй, абараніць незалежнасьць і па-людзку загаспадарыць у сваёй Бацькаўшчыну, спрыяльна для ўсіх людзей.

* * *

Тут мушу яшчэ парушыць вельмі істотны для нас, беларусаў, сьветапоглядны й псіхалягічны аспэкт, паколькі нашае цяперашняе грамадзтва сілкам спынілі ў паняцьцях савецкай сыстэмы. Савецкая ідэалёгія ўлады трымалася на вайне. У 1920-1930-х гадох - на псыхозе "дзейнасьці" зьнешніх і ўнутраных "ворагаў" і варожых падкопаў буржуазных імпэрыялістаў, гатовых шкодзіць і напасьці на СССР. Пасьля вайны гэтая палітыка будавалася на гіпэртрафаванай, аднабокай і перакручанай памяці пра жахі вайны, якія ўзводзіліся ў паралізуючы пачварны культ сыстэмнай ідэалёгіі страху перад вайною.

Амаль 50 гадоў савецкая сыстэма выкарыстоўвала цярпеньні й пакуты людзей за часы Другой Сусьветнай вайны дзеля апраўданьня ўсіх сваіх недахопаў, рэпрэсіяў, эксплюатацыі й паразітызму, уціску і няўдачаў. Ідэалёгія канцэнтравалася ў формуле: "галоўнае, каб не было вайны". Альтэрнатывай каляніяльнаму савэтызму і сацыялізму выстаўлялася вайна. Таму трэба было цярпець і з усёй мярзотай пагаджацца "абы вайны не было".

На гэтым ідэёва-псыхалягічным збачэнстве і страху людзей 46 гадоў трымаўся Савецкі Саюз, і гэтая прапаганда, гэты бяздумны жах перад вайною ўвайшлі ў жылы й кроў савецкага чалавека.

Але элемэнтарны здаровы сэнс падказвае, што трэба баяцца не вайны, а рабства; што ёсьць каштоўнасьці й зьявы, даражэйшыя за жыцьцё. І гэта даказваецца ўсёю духоўнаю і экзыстэнцыйнаю гісторыяй чалавецтва.

Войны бываюць розныя. Мала хто здолеў дасягнуць незалежнасьці й свабоды без пакутаў, ахвяраў, барацьбы й вайны (хоць кожны хацеў-бы мірнага самавызначэньня). І нікому не ўдалося засьцерагчыся ад агрэсіі не супраціўляючыся сваім ворагам.

Пагроза нашай незалежнасьці - гэта палітычная рэчаіснасьць цяперашняга часу. І як-бы ні разьвіваўся маскоўскі акупацыйны сцэнар у Беларусі, рашаючае слова застанецца за беларусамі. Як, якім чынам яно будзе сказанае, ці па сыстэме "абы вайны не было", ці на ўзроўні - "акупанты, прэч!", ці ў перакананьні: "Бацькаўшчына - альбо сьмерць!" - ад гэтага ўрэшце будзе залежыць і нашая будучыня.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

# ДЫКТАТУРА І САТРАП

Агульнымі рысамі дыктатараў зьяўляюцца: першаснасьць асабістай улады, імкненьне да абсалютызацыі асабістай улады й гатоўнасьць ахвяраваць чужымі жыцьцямі дзеля яе ўтрыманьня. Сталін уяўляў сабой тып паранойнага дыктатара з псіхалёгіяй падазронасьці й недаверу. Адсюль - частыя зьмены кадраў і перыядычныя чысткі.

Мэтадам заспакаеньня падазронасьці й спосабам прадухіленьня пагрозы быў страх, насаджэньне страху ў асяродзьдзі ўлады перад сваёю асобаю.

На гэтым падабенства між Сталінам і Лукашэнкам канчаецца.

І па маштабу асабовасьці, і па прыродзе ўлады - гэта розныя тыпажы. Дыктатура Сталіна грунтавалася на партыйнай ідэалёгіі і на аднапартыйнай таталітарнай сыстэме. Абсалютызуючы сваю ўладу, Сталін стварыў таталітарную тэрарыстычную ваенную дзяржаву і быў зацікаўлены ў яе існаваньні. Ён сфармаваў сістэму, якая стварала яму культ асобы, культ "бязгрэшнага" правадыра.

Было створанае ўражаньне, што ва ўсіх недахопах вінаватыя шкоднікі, але ня Сталін, які, нібыта, наводзіў парадак. Адсюль рэпрэсіі й шалёны тэрор, дзесяткі мільёнаў забітых людзей.

Лукашэнка - гэта ёсьць дыктатар-марыянэтка, кіруемы спэцслужбамі і ўладамі чужой дзяржавы. Марыянэткавы рэжым Лукашэнкі ня мае ідэалёгіі, не абапіраецца на партыйны таталітарызм і не стварае таталітарнай дзяржавы. А гэта значыць, што ў яго няма рэальнай самастойнай сілы, што ён уяўны, штучны й залежны.

Канцэнтрацыя ўлады не стварае Лукашэнку культу асобы, а ўмацаваньне ягонай улады паклікана не на разьвіцьцё, а на развал беларускай дзяржавы, яе нацыянальнай культуры і эканомікі, на падрыхтоўку яе ў Расею.

Рэжым Лукашэнкі мае ўсе прыкметы чужога акупацыйнага рэжыму.

Дыктатура асабістай улады Лукашэнкі пазбаўленая стратэгічнага абсалютнага зьместу, бо сэнс ягонай палітыкі - улучэньне Беларусі ў сыстэму іншай дзяржавы. У такім становішчы ня будзе існаваць дыктатура Лукашэнкі. Тут алягізм, абсурд.

Параўнаньне Лукашэнкі са Сталінам -- недарэчнае. Лукашэнка ня ёсьць клясычным дыктатарам, гэта тыповы сатрап, стаўленік, службовая асоба чужой стратэгіі й залежнай палітыкі.

* * *

Сталінская вынішчальная акупацыйная палітыка і генацыд 1920-1940-х гадоў у Беларусі падарвалі беларускія сілы. Сталіністы-энкавэдзісты забілі *лепшых людзей* нашай краіны, зьнішчылі беларускае сялянства, выкрэсьлілі з жыцьця цэлае пакаленьне беларусаў, разбурылі набыткі беларускай культуры, перарвалі эстафету гістарычнага нацыянальнага разьвіцьця.

Падабенства цяперашняга антыбеларускага рэжыму са сталінскім зыходзіць якраз з гэтай акалічнасьці й заключаецца, найперш, у перасьледзе ўсяго беларускага, у шалёнай і гвалтоўнай русіфікацыі, у бяспраўі людзей перад дзеяньнямі ўлады, у насаджэньні страху ў грамадзтве, у адлучэньні беларусаў ад зямлі.

Гэта галоўнае. Гэта асноўныя праявы акупацыйнай прарасейскай дыктатуры.

***Зянон ПАЗЬНЯК***




# Весткі й Паведамленьні

нью ерскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net №4 (447)


# САКАВІЦКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

У суботу 8-га сакавіка ў Фундацыі Крэчэўскага прайшоў чарговы сход аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу сп. В. Зайка даў інфармацыю аб падзеях у Беларусі за апошні месяц. Затым прайшла вечарына, прысьвечаная выдатнай беларускай паэтцы Натальлі Арсеньневай (1903-1997). З успамінамі пра яе выступілі слаўныя дзеячы беларускай грамады ў Амэрыцы сп. Вітаўт Кіпель і сп. Янка Запруднік, і прагучала адмыслова напісаная для імпрэзы нізка ўспамінаў пра Арсеньневу спн. Зоры Кіпель, якая, на жаль, з прычыны нездароўя не змагла прыехаць на вечарыну.

Сп. В. Кіпель адзначыў, што ўпершыню пабачыў Натальлю Арсеньневу ў ваенным Менску, на розных культурніцкіх імпрэзах, зь якіх асабліва запомніліся Дажынкі ўвосень 1943-га году, калі па вуліцах было наладжанае шэсьце моладзі ў нацыянальных строях са сьпевамі й музыкай, у першых шэрагах якога ішла Натальля Арсеньнева. Бліжэйшае знаёмства адбылося ў пасьляваенны час, у ДыПі-лягеры ў Рэгенсбургу. Да рэчы, Арсеньнева ўзгадала В. Кіпеля і ягонае выкананьне ролі Кастуся Каліноўскага на адной з імпрэзаў у сваіх успамінах. Калі паўстаў беларускі скаўцкі рух, Арсеньнева стала адною зь першых асобаў, якія дапамагалі скаўтынгу. Яна ахвотна пісалі п'есы, вершы, рабіла пераклады. Яна - аўтарка беларускага скаўцкага гімну "Ваўчкі". Пазьней, ужо ў Амэрыцы, давялося разам працаваць у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва (БІНіМ), дзе Н. Арсеньнева была працяглы час сакратаром. Яна брала ўдзел у выдавецкай і рэдакцыйнай дзейнасьці Інстытуту, спрычынілася да выхаду сэрыі кніжак БІНіМу, выдадзеных у Мюнхене: "Новая зямля" Я. Коласа, "Спадчына" Я. Купалы, "Запіскі Самсона Самасуя" А. Мрыя, выбраныя творы А. Гаруна ды іншае. Тады вялася дыскусія, якою моваю мусяць выходзіць выданьні БІНіМу, ангельскай ці беларускай. Арсеньнева была ў ліку тых, хто выступаў за выданьне па-беларуску. Безумоўна, Арсеньнева працягвала пісаць вершы. Яны выходзілі ва ўсіх замежных беларускіх перыядычных выданьнях, у тым ліку ў літаратурным часапісе "Конадні". Паэткі такой сілы й пранікнёнасьці сярод беларускіх літаратурных сілаў на эміграцыі ды на беларускім Парнасе наагул - не было. Яна з энэргіяй брала ўдзел ва ўсіх імпрэзах беларускай грамады Паўночнай Амэрыкі, жыва цікавілася літаратурнымі справамі на паняволенай расейскімі камуністамі бацькаўшчыне. У БІНіМе выйшаў найбольш поўны збор твораў Натальлі Арсеньневай "Між берагамі", першым у сэрыі "Беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі". Пасьля краху камунізму ў 1991-м годзе Н. Арсеньнева атрымлівала шмат лістоў ад прыхільнікаў зь Беларусі, і яна вельмі эмацыйна ўспрымала тое, што яе не забыліся на Бацькаўшчыне. Цікава, што ў адной са школаў на Маладэчаншчыне, дзе Натальля Арсеньнева паўгады працавала настаўніцаю перад пачаткам вайны ў 1941-м годзе, была створаная сталая экспазыцыя, прысьвечаная паэтцы. На жаль, з чыста палітычных прычынаў, сапраўднага поўнага прызнаньня творчасьці Натальлі Арсеньневай у Беларусі яшчэ не адбылося, яе творы выкідаюцца са школьных падручнікаў, яе імя зноў выкрэсьліваецца зь гісторыі беларускай літаратуры.Таму для нас на эміграцыі так важна захаваць памяць і творчасьць паэткі й годна адзначыць ейны 100-гадовы юбілей, што прыпадае на верасень сёлета.

Затым перад прысутнымі выступіў сп. Янка Запруднік, які пачаў словамі пра тое, што беларусы - нацыя паэтаў, і калі няма войска і гарматаў бараніць краіну ад вынішчальнікаў, чужых і сваіх - тады яе бароняць паэты. На паэтах трымаецца Беларусь, і сярод гэтых паэтаў назаўсёды застанецца ў гісторы і ў нашых сэрцах Натальля Арсеньнева. Сп. Запруднік падзяліўся сваімі ўспамінамі пра Н. Арсеньневу з часоў сумеснай працы на "Радыё Свабода". Упершыню голас Арсеньневай і яе вершы прагучалі на хвалях "Радыё Свабода" ў перадачы з сэрыі "Беларускія эмігранцкія пісьменьнікі перад мікрафонам", у 1963-м годзе. Тады разам з іншымі быў прачытаны толькі што напісаны верш "Мой скарб". Затым Арсеньнева паступіла на працу ў Беларускую рэдакцыю "Радыё Свабода" і цалкам аддавала сябе справе, якую палюбіла. Калі паўстала пытаньне, накінутае высокім кіраўніцтвам, каб увесьці ва ўжытак на "Радыё Свабода" савецкую норму беларускай мовы (быццам лепш зразумелую савецкаму насельніцтву), Н. Арсеньнева разам з іншымі супрацоўнікамі стала на абарону мовы. Камуністычная прапаганда заўважыла і "ацаніла" працу Арсеньневай і ейныя вершы. Адказы на яе выступы, артыкулы пра Арсеньневу, а таксама ейнага мужа, Францішка Кушаля, з адпаведным паклёпніцкім адразьлівым зьместам, часта зьяўляліся на бачынах падсавецкіх беларускіх і маскоўскіх газэтаў. Паэтка працавала таксама ў Камітэце вызваленьня ад бальшавізму. Арсеньнева цешылася любоўю і адданасьцю прыхільнікаў сваёй творчасьці, спадзявалася, што яе вершы даходзяць да сэрцаў людзей на паняволенай Бацькаўшчыне. У 1967-м годзе з прычыны раптоўнай сьмерці сынавай жонкі, Арсеньнева мусіла пераехаць у Рочэстар дапамагчы сыну гадаваць двух малых дзяцей.

З працай на радыё і з паплечнікамі прыйшлося разьвітацца, але яе праца на карысьць Беларусі працягвалася. Прасякнутая да шпіку касьці беларускаю справаю, Натальля Арсеньнева ўжо праз адно сваё аўтарства беларускага рэлігійнага гімну "Магутны Божа" забясьпечыла сабе месца ў пантэоне беларускіх прарокаў, а зрабіла-ж яна і напісала непараўнальна больш. Моладзь мусіць ведаць яе творчасьць і вучыцца ў яе. Ейная паэзія, што запала ў нашыя сэрцы, ейная грамадзкая ахвярнасьць будуць абуджаць любоў да Беларусі й уздымаць на змаганьне новыя пакаленьні. Стагодзьдзе нараджэньня паэткі мусіць спрычыніцца да найшырэйшай папулярызацыі паэзіі й жыцьця Натальлі Арсеньневай, беларускай патрыёткі й грамадзянкі.

Перад прысутнымі выступіў таксама госьць, старшыня Таварыства Беларускай Мовы на Віцебшчыне сп. Іосіф Навумчык, які распавёў пра падзеі з культурнага і грамадзкага жыцьця Беларусі і Віцебшчыны, пра падрыхтоўку да сьвяткаваньня 100-х угодкаў Н. Арсеньневай. Сп. І. Навумчык прэзэнтаваў аддзелу БАЗА новую кнігу клясыка беларускай літаратуры Ўладзімера Дубоўкі, выдадзеную з дапамогаю ТБМ, у якую ўвайшлі многія творы гэтага рэпрэсаванага ў сталінскія часы паэта, што не друкаваліся з 1920-1930-х гадоў.

Пасьля сходу адбыліся, як заўсёды, таварыскія гутаркі пры каве й прысмаках.

**Віталь ЗАЙКА**

*Успаміны пра Натальлю Арсеньневу спн. Зоры Кіпель, сп. сп. Вітаўта Кіпеля і Янкі Запрудніка чытайце ў наступным нумары.*

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| У. Набагез | .50 | А. Лістоўская | .30 |
| Я. Набагез | .50 | М. Лойка | .30 |
| В. Зайка | .30 | А. Міцкевіч | .30 |
| Р. Зайка | .30 | Я. Сіманюк | .30 |
| М. Клакоцкі | .30 | В. Яськевіч | .30 |
| А. Колбун | .30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 10-га ТРАЎНЯ 2003-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

## ЛЕКЦЫЯ ПРА ГЕНДЭРНЫЯ ДОСЬЛЕДЫ

**На сходзе аддзелу БАЗА 10-га траўня адбудзецца лекцыя прафэсара Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту (Менск) Др. Алены ГАПАВАЙ на тэму:** ***"Нацыянальная праблематыка і гендэрныя (жаночыя) досьледы ў Беларусі".***

**Прафэсар А. Гапава заснавала ў 1997-м годзе ў Менску Цэнтар Гендэрных Досьледаў пры незалежным Эўрапейскім Гуманітарным Унівэрсытэце і як навуковец дасягнула сусьветнага ўзроўню ў сваёй галіне.**

**Калі ласка, прыходзьце на сход аддзелу і лекцыю!**

# ПЕРАМІНЁМ ЦІ ПЕРАМЕНІМ?

Пасля падзеньня "жалезнай заслоны" краіны Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы вызваліліся ад прыгнету камуністычных рэжымаў. На жаль, разьвіцьце падзеяў у адной з усходнеэўрапейскіх краінаў прывяло да ўзьнікнення новай аўтарытарнай сыстэмы, якая абмяжоўвае асноўныя правы й свабоды чалавека. Гэтаю краінаю зьяўляецца Беларусь, зь ейным кіраўніком Аляксандрам Лукашэнкам - апошнім дыктатарам на эўрапейскім кантынэнце.

Пасьля абраньня А. Лукашэнкі прэзыдэнтам у 1994-м годзе толькі праз пэўны час насельніцтва пачало разумець рэальныя напрамкі дзейнасці новага кіраўніка краіны на ўсталяваньне свайго аўтарытарнага рэжыму. У гэты час ў Беларусі пачалі дзейнічаць апазыцыйныя арганізацыі, альбо ўжо існуючыя зьмянілі напрамкі сваёй дзейнасьці на супраціўленьне існуючаму рэжыму. На цяперашні час у Беларусі дзейнічае даволі значная колькасць апазіцыйных арганізацыяў і партыяў нягледзячы на тое, што рэжым вядзе бесперапынную барацьбу зь імі.

Найбольш цікавым зьяўляецца той факт, што значную частку апазыцыі складае моладзь. Яшчэ са школы мы памятаем, што на "барыкадах французскай рэвалюцыі" стаяла моладзь. Дык што гэта - толькі жаданьне моладзі з кім-небудзь супраць чагосьці пазмагацца, толькі таму што гармоны й маладая кроў, альбо жаданьне бачыць сваю краіну моцнаю незалежнаю дзяржаваю, якая-б шанавала сваю гісторыю, мову, культуру, самабытнасць і ў той-жа час была сацыяльна, эканамічна, культурна і тэхнічна разьвітаю краінаю і мела сваю вагу ў сусьветнай супольнасці.

Я лічу, што, несумненна, прагрэс і развіцьцё - гэта тое, да чаго павінна ісьці кожная краіна. Моладзь - гэта тая частка насельніцтва, якая мае найбольшыя сілы, патэнцыял і жаданьне зьмяніць штосьці й ісці наперад. Старэйшыя людзі таксама ня будуць сядзець склаўшы рукі, але яны часта ня маюць часу, занятыя нізкааплатнаю працаю, каб пракарміць сям'ю ( між іншага, гэта добры інструмэнт, каб адцягнуць чалавека ад палітыкі, больш працуе - менш часу на разважаньні, не кажучы аб удзеле ў дзейнасьці нейкіх партыяў).

На жаль, і моладзь не заўсёды мае магчымасьць праявіць сваю волю і жаданьне на шляху да лепшага жыцьця. Як сведчыць статыстыка, з пагаршэньнем сацыяльна-эканамічнага становішча ў краіне маладыя людзі ўсё часьцей папаўняюць шэрагі гарадзкіх бяздомных. Штогод гарадзкое ўпраўленне ўнутранных справаў Менску рэгіструе каля паўсотні чалавек ва ўзросьце ад 18 да 30 гадоў, якія трапляюць пад графу "асоба бяз пэўнага месца жыхарства". Адною з асноўных праблемаў зьяўляецца атрыманьне працы, бо значная частка гэтых асобаў мае вышэйшую адукацыю. У такой сытуацыі ўжо не да ўдзелу ў розных палітычных мерапрыемствах.

Трэба заўважыць, што ў Беларусі дзейнічаюць ня толькі апазіцыйныя арганізацыі, але і прэзыдэнцкія. З аднаго пункту гледжаньня гэта вельмі добра, таму што на шляху да дэмакратыі вялікая колькасць людзей ускладае надзею на свабоду слова, свабоду свайго палітычнага шляху, веру ў свае ідэалы. Аднак не ў Беларусі. Вялікая барацьба вядзецца з апазыцыйнымі арганізацыямі, а ў прэзідэнцкія наадварот, дабравольнапрымусова заганяюць людзей.

Я лічу, найбольш бачным і дакладным прыкладам зьяўляецца Беларускі Патрыятычны Саюз Моладзі ( БПСМ). Напрыклад, у мяне ёсць знаёмыя, якія сутыкнуліся з праблемамі працаўладкаваньня, калі пры запаўненні анкеты пры прыняцьці на працу, у графе "Ці зьяўляецеся вы сябрам якой-небудзь палітычнай арганізацыі?" яны сумленна напісалі назву дэмакратычнай арганізацыі, сябрамі якое былі. Праз некаторы час абодва атрымалі адмоўны адказ. На пытаньне, чаму іх не ўзялі на працу, сярод некалькіх вельмі нелягічных апраўданьняў было тое, што калі-б яны былі дзеячамі БПСМ, то было-б значна лепш.

Некалькі гадоў таму мой сябра спрабаваў выехаць у ЗША, і калі ён пайшоў у амэрыканскую амбасаду на інтэрв'ю, то візу яму не далі. Ён вырашыў падаць на апэляцыю, дзе павінен быў даказаць, што мае моцныя сацыяльныя і эканамічныя сувязі са сваёю краінаю і не пры ніякіх абставінах не застанецца ў ЗША. Ён напісаў ліст, ў якім распавёў, як ён добра жыве на радзіме, мае шмат сябраў, як добра забясьпечаныя ягоныя бацькі, як ён бачыць сваю будучыню пасьля вучобы ва ўнівэрсытэце, і як актыўным дзячом БПСМ ён зьяўляецца.(Трэба дадаць, што ў БПСМ ён уступіў тады, калі атрымаў першы адказ, бо даведаўся, што дзеяч апазыцыі мае менш шансаў атрымаць візу, бо яго палічаць патэнцыйным эмігрантам, а сяброўства ў прэзыдэнцкай арганізацыі надае больш веры ў вяртаньне дамоў. На самой справе ён быў і ёсьць актыўным дзеячом беларускай апазыцыі.) На той час у амбасаду ЗША прыйшло каля 200 апэляцыйных зваротаў, пазытыўны адказ атрымалі толькі 11 чалавек, мой сябар быў сярод іх.

БПСМ атрымаўвае ад дзяржавы вялікія сродкі на правядзенне агітацыі, мерапрыемстваў для моладзі, арганізацыю адпачынку ў летніх лягерох, сродкі на офісы арганізацыі, якія раскіданыя па тэрыторый усёй Беларусі. На жаль, незалежныя арганізацыі ня маюць такіх магчымасцяў і шмат што хацелі-б зрабіць, але на ўсе не хапае грошай, тым больш, што органы праваппарадку па надуманых прычынах прызначаюць вялікія штрафы, як арганізацыям увогуле, так і іхным сябрам.

Таксама цікавым зьяўляецца той факт, што пры шчырай размове многія сябры БПСМ прызнаюцца, што ня вера ў ідэалы й накірункі дзейнасці гэтае арганізацыі прыцягвае іх, а льготы пры паступленьні на вучобу альбо пры ўладкаваньні на працу, магчымасць бясплатнага летняга адпачынку, фінансавая дапамога ў відзе прэміяў, а таксама страх (няўпэўненасьць) за сваю будучыню, жыцьцё.

Але беларуская моладзь імкнецца да пераўтварэньняў, нягледзячы на арышты за расклейку ўлётак, за ўдзел ў дэманстрацыях, за тое, што адкрыта гаворыць праўду на вуліцах, нягледзячы на выключэньні з унівэрсытэтаў.

У маладых беларусаў застаецца вера ў будучую Беларусі, дзяржаву сусьветнага ўзроўню, з высокаю культураю, адукацыяй, навукова, тэхналягічна і інфармацыйна разьвітую і незалежную. І гэтая вера натхняе іх не сядзець склаўшы рукі нават пакінуўшы Беларусь, бо яшчэ прыйдзе той дзень, калі ўсе тыя, хто вымушаны былі хавацца ад пераследу, змогуць вярнуцца на Бацькаўшчыну з новым досьведам, ў новай адукацыяй, ў новымі сіламі.

***Максім АЎСЕЕЎ, Дэнвэр***

# "Зьвяз Беларусаў Замежжа" ў Празе

Актуаліі найноўшае гісторыі Беларусі даволі змрочныя. Ужо дзевяць гадоў, як узурпаваў уладу апошні дыктатар Эўропы. Безумоўна - гэта чорны перыяд у гісторыі Беларусі. Перыяд саветызацыі, калі Беларусь вярнулася ў часы сталінізму. Рысы гэтага перыяду - палітычныя вязьні; зьніклыя (хучэй я за ўсё, забітыя) ведамыя палітычныя дзеячы, апанэнты рэжыму; перасьлед навукоўцаў, бізнэсоўцаў, журналістаў, усіх тых, хто ня хоча прыслухаваць ўладзе і застаецца адданым ідэалам свабоды й дэмакратыі; пасьлядоўнае, сплянаванае зьнішчэньне беларускай мовы й культуры, скажэньне фактаў гісторыі.

Пабудова "рынкавага сацыялізму" ў адной асобна ўзятай краіне скончылася крахам сельскае гаспадаркі, эканамічным каляпсам, заняпадам усіх сфэраў жыцьця. Як вынік - народ даведзены да жабрацтва і галечы. Наслухаўшыся абяцаньняў, ня верачы ў сваю дзяржаву, людзі шукаюць паратунку за межамі Радзімы. Едуць на працу ў Расею, Эўропу, Амэрыку, - куды заўгодна - толькі-б зарабіць на пражыцьцё. Дзе толькі сёньня не сустрэнеш брата-беларуса? Шмат хто зьяжджае сьведама, усё ўзважыўшы, з надзеяю трапіць у ЗША ці Канаду. Гэта, так-бы мовіць, эканамічная эміграцыя. Але нехта зьяжджае і не па сваім жаданьні, нават ня ведаючы дакладна куды, і што іх чакае ў чужой краіне. Яны ўцякаюць, каб захаваць сабе свабоду, а часам і жыцьцё. Гэта - палітычныя эмігранты, палітычныя ўцекачы.

Наяўнасьць палітычных уцекачоў - гэта таксама рыса дыктатуры. І, на вялікі жаль, гэтая тэндэнцыя пакуль узрастае. Напрыклад, у Чэхіі ў 1997-м годзе палітычны прытулак атрымалі 5 беларусаў, у 1998-м - 7, у 1999-м - 11, у 2000-м - 24, у 2001-м - 25. Жадаючых атрымаць азыль і тых, хто чакаюць рашэньня у сто разоў болей. Няцяжка падлічыць, што беларускіх эмігрантаў у Чэхіі некалькі тысячаў. А калі дадаць да гэтае лічбы студэнтаў, якія навучаюцца ў розных навучальных установах Чэскай Рэспублікі ды тых, хто мае працоўныя візы, то атрымліваецца даволі вялікая грамада.

Хачу падкрэсьліць, што далёка ня ўсе беларускія эмігранты прыехалі ў чужую краіну для таго, каб палепшыць свой матэрыяльны стан. Многія працягваюць змагацца за Беларусь. Для іх галоўнае - не матэрыяльныя каштоўнасьці - а адраджэньне Бацькаўшчыны. І калі ёсьць пэўная група людзей, аб'еднаная адной ідэяй, паўстае арганізацыйнае пытаньне. Дзеля большай эфэктыўнасьці ў сваіх намаганьнях, дзеля каардынацыі дзеяньняў у Празе паўстала арганізацыя "Зьвяз Беларусаў Замежжа". Аргкамітэт пачаў сваю працу ў студзені 2002-га году. Быў распрацаваны статут, плян дзеяньняў арганізацыі. Першай масавай акцыяй стала сьвяткаваньне Дня Волі, 25-га сакавіка 2002-га году, калі каля сарака чалавек пікетавалі беларускую амбасаду ў Празе. 26-га красавіка ўжо каля сотні чалавек прайшлі па цэнтру Прагі з беларускімі нацыянальнымі сьцягамі й запаленымі сьвечкамі, правёўшы такім чынам "Чарнобыльскі шлях". Аб гэтых і іншых акцыях нашай арганізацыі хутка можна будзе даведацца на старонцы www.belabroad.org у інтэрнэце. Зьвязацца з намі можна ўжо цяпер даслаўшы ліст электроннаю поштаю на наступны адрасу: zviazbel @ hotmail.com .

Чаму мы выбралі для аб'еднаньня такую назву? Склалася так, што Чэхія стала першаю краінаю, куды трапляюць шмат якія беларускія эмігранты, пакінуўшы Бацькаўшчыну і едучы ў Эўропу. Некаторыя зь сяброў арганізацыі пакуль ішла падрыхтоўка да рэгістрацыі зьехалі ў іншыя краіны. Таму ўзьнікла назва "Зьвяз Беларусаў Замежжа", а не адной асобна ўзятае краіны. На маю думку, гэта добрая ідэя, і зараз трэба яе ажыцьцяўляць.

***Аўген СІДОРЫК (Прага)***

Акцыю ў падтрымку маршу, які праходзіў у Беларусі пад лёзунгам "За лепшае жыцьцё!" правёў у Празе "Зьвяз Беларусаў Замежжа" 12-га сакавіка . Сябры "Зьвязу" абыйшлі праскія офісы міжнародных арганізацыяў, каб распаўсюдзіць заяву, у якой выказалі салідарнасьць з дэмакратычнымі сіламі на Радзіме і поўную падтрымку людзям, якія змагаюцца за лепшую будучыню для Беларусі.

# "Полацак" абраў новае кіраўніцтва



Добрую падтрымку маюць беларусы Кліўленду ад сп. Анатоля Лук'янчыка й ягонай сям'і, якія ўжо шмат гадоў дапамагае землякам на эміграцыі й на Бацькаўшчыне. Аўтарытэт і адданасьць беларускай справе сп. Лук'янчыка ведамыя ўсім. Таму і абралі яго беларусы Кліўленду на сходзе 16-га сакавіка ізноў кіраваць дзейнасьцю культурна-рэлігійнага цэнтру "Полацак".

На сходзе была заслуханая справаздача кіраўніка і рэвізыйнай камісіі, зь якіх было відаць, што фінансавыя справы ў найбуйнейшым беларускім цэнтры ідуць добра. Прывабнымі былі й пляны на наступны год. Удзельнікі сходу таксама абралі новы склад кіруючага камітэту "Полацку" і выказалі надзею, што гэты камітэт пад кіраўніцтвам сп. Лук'янчыка будзе пасьпяхова працягваць працу па захаваньню і памнажэньню беларускай прысутнасьці ў Агаё.

**СВ**

***На здымку: Сямён Шарэцкі віншуе Анатоля Лук'янчыка з даверам беларускай грамадзкасьці Кліўленду.***

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ БАЗА Ў АГАЁ

Урачыста прайшла 9-га сакавіка Божая служба ў царкве Жыровіцкай Божай Маці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Стронгсвіле ля Кліўленду. Як заўсёды прыгожа гучалі галасы сьпевакоў царкоўнага хору, сьвятар распавёў пра пачатак Вялікага Посту, пра тое, што гэта ня толькі ўстрыманьне ад скаромнае ежы, але і вялікая духоўная праца. Падчас літургіі прагучалі выбачальныя малітвы. Пасьля заканчэньня ўсе парафіяне перайшлі ў царкоўную залю, дзе на іх чакаў добры пачастунак: аладкі й дранікі.

Але ня толькі вышэйпералічаным адзначыўся гэты вясновы дзень у жыцьці беларусаў штату Агаё. У залі беларускага культурна-рэлігійнага цэнтру "Полацак" быў праведзены ініцыятыўны сход па актывізацыі дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Яго распачаў сп. Пол Васілеўскі, старшыня кліўлендзкага аддзелу БАЗА, нагадаўшы прысутным мэты й задачы арганізацыі, а таксама дзейнасьць аддзелу за апошні час. Ён падкрэсьліў неабходнасьць актывізацыі ягонай дзейнасьці й мясцовага беларускага жыцьця ўвогуле.

Сп. Васіль Мельяновіч паведаміў удзельнікаў сходу аб тым, што за мінулыя два тыдні больш за 50 беларусаў Агаё даслалі лісты сваім кангрэсмэнам з заклікам падтрымаць Акт аб дэмакратыі ў Беларусі. Былі адасланыя калектыўныя лісты ад аддзелу БАЗА і ад Беларускага Кангрэсовага Камітэту, які ўзначальвае сп. Мельяновіч.

Зьмястоўную прамову меў прафэсар і сьпікер беларускага парляманту Сямён Шарэцкі, які ўзгадаў шматгадовую гісторыю БАЗА ў Кліўлендзе, ягоных заснавальнікаў і даў свае парады па складу ўправы аддзелу і яе будучае дзейнасьці.

Зь вялікаю зацікаўленасьцю слухалі ўдзельнікі сходу парады кіраўніка "Полацаку" сп. Анатоля Лук'янчыка. Тым больш, што па дамове з кіраўніцтвам "Полацаку" аддзел БАЗА будзе мець сядзібу ў памешканьні гэтага найбуйнейшага беларускага цэнтру на эміграцыі. А юрыдычны адрас агаёўскага аддзелу БАЗА будзе: ***11022 Webster Rd, Strongsville, OH 44136***. Сп. В. Мельяновіча прапанаваў удзельнікам сходу аднавіць дзейнасьць аддзелу БАЗА ня толькі як кліўлендзкага, але як агульна агаёўскага, бо ёсьць нямала сьведамых беларусаў і ў Калямбусе, і ў Цынцынаці. Гэтая прапанова была аднагалосна падтрыманая.



***На здымку зьлева направа: Алег Прузынік, Сьвятлана Паўлавец, Яўген Кабяка, Бахціяр Бахціяраў, Васіль Мельяновіч, Іна Прузынік, Сяргей Харытонаў, Анатоль Луч'янчык, Хведар Паўлавец, Тамара Раманюк, Пол Васілеўскі, Віктар Літвінка, Віктар Лукашэвіч.***

Потым адбыліся выбары кіраўніцтва аддзелу БАЗА ў Агаё. Старшынём быў абраны сп. Пол Васілеўскі, яго аўтарытэт і арганізатарскія здольнасьці добра ведаюць і памятаюць многія беларусы, асабліва пасьля ўдала зарганізаванай пад ягоным кіраўніцтвам Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў 2000-м годзе. Намесьнікам старшыні аднагалосна быў абраны др. Сяргей Раманюк. Сакратаром управы аддзелу стаў сп. Васіль Мельяновіч, сябрамі ўправы: Бахціяр Бахціяраў, Віктар Літвінка, Іна Прусінік, Хведар Паўлавец. Рэвізыйная камісія была абраная ў складзе: Сьвятланы Белай, Алеся Кабякі й Віктара Лукашэвіча. Новае кіраўніцтва аддзелу пагадзілася першым мерапрыемствам аднаўленае арганізацыі зрабіць урачыстае сьвяткаваньне 25-га Сакавіка.

Ёсьць упэўненасьць, што дзейнасьць БАЗА ў Агаё будзе пасьпяхова пашырацца. Пераважная большасьць сяброў маюць 30-45 гадоў, яны высока адукаваныя мэнаджэры, музыкі, мастакі, дактары, паліцэйскія, інжынеры. Маладая і моцная беларуская грамада на зямлі Агаё можа добра папрацаваць на карысьць нашае нацыянальнае справы. У добры шлях.

***Сяргей ВАСІЛЬЕЎ***

# ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў БРУКЛІНЕ

Унядзелю 1-га лютага 2003-га году ў грамадзкай залі Катэдральнага сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне беларусы Нью Ёрку і ваколіцаў мелі магчымасьць наведаць канцэрт маладзёвага гурта "Крынічка" зь Беларусі. Хаця сцэна ў залі была трошкі замалая для вялікай групы артыстаў, але яны справіліся вельмі добра, выканалі нават адзін хараводны нумар.

Хор сьпяваў вельмі мілагучна па-беларуску, па-ангельску і па-латыне. Звонкія маладыя галасы ўспрымаліся слухачамі з прыемнасьцю. Вабілі сваёю прыгажосьцю строі артыстаў.

Вялікая падзяка за артыстычнае выкананьне належыць кіраўнічцы хору сп-ні Натальлі Суханавай.

2-га сакавіка 2003-га году ў Катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбылася Літургія Сьв. Яна Златавуснага. На Багаслужбе прысутнічаў Яго Міласьць Першагерарх Найпачэсьнейшы Ўладыка Мітрапаліт Ізяслаў. Багаслужбу правілі айцец архімандрыт Даніэл і айцец Ігар. Пяялі два хоры, царкоўны, пад кіраўніцтвам спн. Ліды Кано, і валійскі, які складаецца больш як з 60 чалавек, і сьпевакі каторага былі ў той дзень гасьцямі беларускае парафіі ў Брукліне. Айцец Даніэл выгалошваў малітвы па-валійску, а валійскі хор пяяў таксама па-валійску. Айцец Ігар выгалошваў малітвы па-царкоўнаславянску, а царкоўны хор пяяў таксама па-царкоўнаславянску. Дзьве малітвы царкоўны хор выканаў па-беларуску, "Ойча Наш" і "Магутны Божа".

Мова валійская зусім іншая ад ангельскае, яна вельмі добра адпавядае царкоўнаму пяяньню. Песьні на ёй у сьвятыні гучалі духоўна і малітоўна.

Пасьля Багаслужбы малельнікі й хорыстыя сышліся ў прыцаркоўнай залі на абед, на які былі сьпечаныя аладкі й зробленыя розныя салаты. Гэтыя смачныя стравы прыгатавала сястрыцтва Сабору. Пазьней прысутныя мелі каву з рознымі пірагамі й тартамі.

З прывітальнымі словамі выступілі а. Даніэл, праф. Томас Бэрд, кіраўнічка валійскага хору. Ведама, беларусы любяць песьню. Пасьля абеду прысутных пацешыла сваімі песьнямі спн. Ліда Кано пад акампанэмэнт піяністкі Тані Дзямешчык. Дуэтам выступілі спн. Ліда Кано і сп. Уладзімер Цяліца. Такім чынам час у гэты дзень правялі весела і цікава.

***Кастусь ВЕРАБЕЙ***

***На здымках: выступае маладзёвы ансамбль "Крынічка" зь Менску; ля мікрафону салісты ансамблю.***







# Беларускае жыцьцё ў Аўстраліі

На паседжаньні ВК Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі, рыхтуючыся да 85-х угодкаў 25-га Сакавіка, вырашылі пайсьці на дапамогу кандыдатцы гістарычных навук Натальлі Гардзіенка зь Менску, якая піша кнігу пра беларускіх жанчын на эміграцыі. Было пастаноўлена выслаць ёй запрашэньне і пакрыць усе выдаткі на падарожжа і побыт у Аўстраліі. На гэта пагадзіліся беларусы Сыднэю й Адэляйды.

І вось 14-га сакавіка спн. Гардзіенка прыехала ў Мэльбурн, дзе яе спаткалі зь беларускім бел-чырвона-белым сьцягам. Гэта было рана раніцою, і яе адвезьлі на кватэру айца Аляксандра Грыцука, які заапекаваўся ёю.

У суботу А. Груша вазіў яе да беларускіх жанчынаў, якія бралі й бяруць удзел у грамадзкім жыцьці. У нядзелю, 16-га сакавіка, пасьля Багаслужбы ў мясцовай аўтакефальнай праваслаўнай царкве ў грамадзкай залі зрабілі прыняцьце з уручэньнем падарункаў ад Беларускага Цэнтральнага Камітэту, як нашай госьці зь Менску, так і сьпявачкам хору "Каліна". Падарункі ўручаў сп. А. Шнэк.

Падчас прыняцьця адбылося шырэйшае знаёмства спн. Гардзіенка зь беларускаю грамадою, пасьля якога госьця сказала: "Я вельмі ўражаная, што беларусы Аўстраліі шчыра зацікавіліся маёю ідэяю дасьледаваньня лёсу жанчын беларускай эміграцыі. На такую актыўнасьць я нават не разьлічвала. А вось беларусы ЗША амаль праігнаравалі мае лісты. Падтрымка Вашая вельмі важная, бо дае стымул для далейшае працы, і за гэта я Вам вельмі ўдзячная."

Нашыя дзяўчаты з хору "Каліна", усе апранутыя ў нацыянальныя строі выканалі некалькі ведамых беларускія народныя песьняў. І гэта, трэба дадаць, ім надта добра ўдалося.

У панядзелак, 17-га сакавіка, наладзілі маёўку для лепшага знаёмства зь людзьмі. У аўторак спн. Гардзіенка пазнаёмілі з горадам Мэльбурнам. У сераду разьвіталіся з госьцяю ў рэзыдэнцыі сп. А. Грушы. У пятніцу ўрачыста сьвяткавалі 25-годзьдзя Беларускага Аб'еднаньня ў Адэляйдзе і 85-годзьдзе абвешчаньне незалежнасьці БНР, дзе спн. Гардзіенка пазнаёмілася з жанчынамі. Праз некалькі дзён яна паехала ў Сыднэй і ўжо адтуль дамоў у Беларусь.

Багаславі яе Бог на працу на дабро нашага народу і роднай Беларусі.

***Паўлюк ГУЗ, Старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту***

***На здымках: госьця зь Менску Н. Гардзіенка; выступае зор "Каліна".***

# Сустрэча ў Празе

Знаходзячыся ў Празе падчас сакавіковых сьвяткаваньняў Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і яе намесьнік Сяргей Навумчык правялі шэраг сустрэчаў з чэскімі палітыкамі. Яны сустрэліся зь віцэ-сьпікерам Сэнату Янам Румалам, віцэ-прэм'ерам Петрам Марэшам, намесьнікам міністра замежных справаў Аляксандрам Вондрам, сэнатарамі й дэпутатамі парляманту.

Спн. Сурвілла заўважыла, што ізаляцыя рэжыму Лукашэнкі міжнародную супольнасьцю не павінна ператварыцца ў ізаляцыю ўсяго беларускага народу. Прыкладам такой практыкі можа быць увядзеньне візавага рэжыму некаторымі краінамі, зь якімі раней Беларусь мела бязьвізавы рэжым. Закраналіся таксама пытаньні падтрымкі чэскімі палітыкамі беларускай апазыцыі й незалежнай прэсы, а таксама стыпендыяў беларускім студэнтам у Празе.

Пад час сустрэчаў некаторыя дэпутаты чэскага парляманту выказалі намер наведаць Менск для назіраньня за правядзеньнем "Чарнобыльскага шляху".

***Галіна ПРЫГАРА***

# З рэдакцыйнай пошты

Раю кожнаму з нашых суродзічаў, хто цікавіцца гісторыяй дачыненьняў Беларусі ды Расеі прачытаць артыкул В. Буйвала "Смута" ("Беларус" № 482), дзе аўтар раіць "трымацца далей ад жудаснае Расеі".

Сп. Буйвал цьвердзіць: "чатыры стагодзьдзі расейска-эўрапейскіх дачыненьняў нічаму не навучылі эўрапейскія эліты".

На жаль, ён не заўважыў, што ў сваю добрую беларускую мову дазволіў улезьці запазычанаму з той "жудаснай Расеі" "бандыту": "нічаму не навучылі". У нашай мове пасьля дзеяслова *навучаць* назоўнік павінен быць ў родным склоне, а не ў давальным - НІЧОГА НЕ НАВУЧЫЛІ.

Гэты расейскі "бандыт" ужо даўно ўкараніўся ў беларускай мове. Раю карэктарам нашага друку трымацца і навучаць свайго, а не чужога.

* * *

Атрымаў з Глыбокага ад Галіны СУТУЛА некалькі радкоў "з жыцьця". Можа знойдзецца ў газэце якая пядзя месца:

ЭКАНОМІКА

Што карова перадойка  
Эканоміка ў нас -  
Малако цвірчыць патроху  
Толькі горкае падчас.  
Ад каровы той прыплоду  
Ані якага ані,  
Хоць вазьмі ты тую здыхлу  
Й пад быка яе гані.

Падымаецца рука,  
Толькі дзе ўзяць быка.

Спадзяюся, што сёлетняя вясна падбадзёрыць змагароў за БНР і запаволіць гон у "вольны сьвет" "тараканаў у саладусе".

***К. АКУЛА (Таронта)***

* * *

...Пару словаў для тых 49%. Сорам, сорам беларусам, якія ня могуць аддзякаваць рэдакцыі за калядныя карткі.

***У. РАКУЦЬ (Ракфорд, Іл.)***

* * *

Мне давялося шмат чытаць пра Курапаты ў газэтах, а таксама ў кнізе З Пазьняка "Сапраўднае аблічча". Прайшло шмат часу, як мы даведаліся праўду пра іх, але належнай пашаны загінуўшым у Курапатах не далі. Робяць розныя пляны, каб зьнішчыць сьляды гэтага злачынства. То там праводзяць дарогу, то будуюць "катэджы". Гэта нішто іншае, як савецкае выхаваньне, якое ўплывае на людзкія паводзіны. Другая прычына - тое, што Курапаты хочуць зруйнаваць наўмысна, каб сьцерці з людзкую памяць пра злачынствы, якія нарабілі камуністы. Людзі ляглі ў магілу, няхай ляжаць ў спакоі. Курапаты - зямля насычаная беларускаю крывёю, там ляжаць найменш 250 000 ахвяраў. І хто-б яны не былі, ім належыць пашана, каб памяталі нашчадкі, што людзі загінулі прадчасна і бяз дай прычыны. Хай збудуюць там мэмарыял. У Хатыні ёсьць, у Катыні ёсьць, няхай будзе і ў Курапатах.

У Амэрыцы ёсьць шмат людзей, якія любяць жывёлаў, асабліва тых, якіх трымаюць дома. Гэта каты, сабакі, птушкі, рыбы. Іх называюць "pet" - любімік. У горадзе Farmingdale каля Нью Ёрку ёсьць спэцыяльны пляц, дзе хаваюць жывёлаў. Ставяць ім помнікі з надпісамі й вершамі. Адносіны да жывёлаў у Амэрыцы, як відаць, лепшыя, чым у Беларусі да людзей. Гэтаму вучыць школа, такія прынятыя законы.

Адкуль гэты спосаб паводзінаў прыйшоў у Беларусь, хто вучыць беларусаў адносіцца да людзкіх астанкаў без пашаны, з абыякавасьцю ды зьдзекам? Нашыя прожкі давалі вялікую пашану нябожчыкам. Пільнавалі іх цела, начамі ня спалі. На Дзяды ўспаміналі ўсіх родных і блізкіх, якія памерлі, ім з павагаю клалі на стол першую лыжку стравы.

У Беларусі ёсьць людзі, якія бароняць Курапаты, як сваю сьвятыню, і ім за гэта вялікая падзяка. А бязбожнікі й атэісты, якіх выхавала савецкая ўлада, павінны спыніць сваю злачынную непавагу і ўшанаваць памяць загінуўшых ад куляў у сталінскія часы.

***Кастусь ВЕРАБЕЙ, Нью Ёрк***

* * *

Зь вялікаю цікавасьцю прачытаў артыкул сп. В. Цярпіцкага ("Беларус" №482.). Тры здымкі маюць вялікую гістарычную вартасьць, за што вялікі дзякуй аўтару. Няхай будзе мне вольна даць малыя дапаўненьні, заўвагі.

Я пісаў пра айца М. Бажэр'янава ў наступных газэтах: "Голас Радзімы" №27(2481) ліпень 1996 г., "Беларус" №450 студзень 1998 г., "Рунь" №29 студзень 2000г. Выглядае, што сп. Цяпртцкі ня змог прачытаць тых артыкулаў. А ў Англіі, Канадзе, ЗША яшчэ многа праваслаўных беларусаў, якія ведалі а. Бажэр'янава ў Танзаніі.

Сп. Цярпіцкі ўспамінае а. Савіцкага. Цікава, што зь ім сталася? Застаўся ў Італіі ці выехаў да Англіі? А можа тут ходзіць аб а. Івану Савічу, які па хваробе выехаў з Італіі да Палестыны?

Успамінаюцца ў артыкуле Б. Кляйноў і А. Аляхновіч. На жаль, іх ужо няма ў жывых, памерлі й пахаваныя ў Англіі.

Калі я ўжо напісаў для "Беларуса" артыкул пра праваслаўных сьвятароў у Польскім войску, прыпадкова дазнаўся, што ў Польшчы ў 1997-м годзе была выдадзеная кніга пра архіяпіскапа Саву. Гэтая кніга ёсьць, між іншым, у польскай бібліятэцы ў Англіі. Пераглядаў яе сп. Ю. Весялкоўскі. Пра беларусаў там вельмі мала, за выняткам аднаго, што быццам 20 беларусаў уцякло з Польскага войска. Асабіста я чытаў пра гэты выпадак некалькі разоў у польскіх газэтах. Інфармацыя там была мінімальная. Беларускія гісторыкі павінны гэтаю справаю пацікавіцца.

***М. ШВЭДЗЮК, Англія***

# Месяц беларускай культуры ў Францыі

Ад 22-га красавіка па 20-га траўня сёлета адбудзецца ў французскім горадзе Клермон-Фэран цэлы шэраг мерапрыемстваў дзеля азнамленьня французаў зь беларускаю культураю. Уся багатая праграма будзе праведзеная пад мастацкім кіраўніцтвам Віржыні Шыманец і Бруна Бусаголя. У розных канцэртных залях гораду адбудуцца тэатральныя й фільмовыя паказы, выставы, выступленьні харавых і музычных групаў ды паасобных сьпевакоў, круглыя сталы й даклады на тэмы, зьвязаныя з традыцыйным і сучасным мастацтвам Беларусі ды ўрадавай палітыкай у галіне культуры й правоў чалавека. У праграме фэстывалю возьмуць удзел, сярод іншых, такія ведамыя асобы як пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч, паэт Алесь Разанаў, філёзаф Алесь Анціпенка. На фэстываль запрошаны Васіль Быкаў, які цяпер жыве ў Празе й выздараўляе пасьля апэрацыі.

***(ЯЗ)***

# БЕЛАРУСКІЯ ЗБОРЫ Ў ЗША І КАНАДЗЕ

Нядаўна зьявілася паведамленьне пра тое, што Бібліятэка Унівэрсытэту Ратгерс заклала падваліны беларускае калекцыі, набыўшы архіў паэта Янкі Золака (Антона Даніловіча) і збор беларускіх кнігаў і архіў д-ра Янкі Запрудніка. Такім чынам, Бібліятэка Ратгерс папоўніла сьпіс установаў Паўночнай Амэрыкі, дзе захоўваюцца беларускія матэрыялы. Калі зрабіць агляд гэтых установаў, так-бы мовячы, з птушынага лёту, дык атрымліваецца наступная карціна.

У Вашынгтоне, Акруга Калюмбія, у Нацыянальным Архіве ЗША ёсьць матэрыялы з польскай амбасады ды іншых польскіх дыпляматычных пляцовак пра падпольныя рухі ў Заходняй Беларусі (КПЗБ), пра Беларускую Сялянска-Работніцкую Граmаду, данясеньні агентаў. Патрабуюць досьледу архівы Джорджтаўнскага Ўнівэрсытэту, у заснаваньні якога адыграў важную ролю наш зямляк а. Францішак Дзяржынскі з Воршы. Не выключана, што туды маглі трапіць карціны, вывезеныя з Полацкай акадэміі 150 гадоў таму. Дарэчы, у Езуіцкіх архівах у Балтыморы захоўваецца перапіска кс. Дзяржынскага са сваякамі.

Ёсьць беларускія матэрыялы й у Нью Ёрку. Так, у Інстытуце Пілсудскага можна знайсьці матэрыялы, зьвязаныя зь Беларускай Вайсковай Камісыяй, зь дзейнасьцю Алеся Гаруна, "Страявы Статут" Ф. Кушаля з 1919-га году (Лодзь). У Бахмецеўскім архіве Калюмбійскага Ўнівэрсытэту захоўваюцца матэрыялы дарэвалюцыйнага менскага губэрнатара, што могуць быць каштоўнаю крыніцаю для досьледаў гісторыі Беларусі. Інстытут Гэбрайскіх Досьледаў IBO (Нью Ёрк) мае матэрыялы пра гэбраяў Беларусі, пра 2-ю Сусьветную вайну ў Беларусі, спарадычныя матэрыялы пра Заходнюю Беларусь міжваеннага часу. Цікавым дадаткам ёсьць таксама маркі БНР, якія можна знайсьці ў калекцыі Філятэлістычнага Таварыства ў Нью ¨рку. Экспазыцыя Музэю Іміграцыі на Эліс-Айленд мае пашпарты БНР, па якіх у Амэрыку прыехалі беларускія эмігранты.

Вартыя ўвагі таксама Чыкага і Кліўленд - у тамтэйшых Публічных бібліятэках ёсьць, сфільмаваныя ў 1930-я гады па ініцыяванай Фр. Рузвэльтам, праграме WPA, іміграцыйныя архівы й матэрыялы, у тым ліку аб даваеннай і дарэвалюцыйнай беларускай эміграцыі. У Чыкага ёсьць матэрыялы Язэпа Варонкі - мэмарандумы этнічнай рады, а таксама царкоўныя дакумэнты, трансакцыі. У падборы матэрыялаў для фільмаваньня бралі ўдзел беларускія грамадзкія дзеячы Антон Чарапук і Макар Аблажэй. Шмат ёсьць фрагмэнтарных цікавостак, як, напрыклад, у справе на царкоўным судзе пра абвінавачванага было пададзена пра-расейскім вінаваўцам, як адмоўная рыса, што той чытаў "Нашую Ніву".

У Стэнфардзе (Каліфорнія) пры Ўнівэрсытэце ёсьць ведамы Гувэраў Інстытут, дзе захоўваюцца матэрыялы АРА - Амэрыканскай Дапамоговай Адміністрацыі, якая займалася разьмяркаваньнем харчовай дапамогі савецкай Расеі ў час голаду 1921-1923 гадоў. Філіі АРА знаходзіліся і ў савецкай Беларусі (Віцебск, Гомель, Менск), і шмат дакумэнтацыі, зьвязанай з гэтым, трапіла ў Гувэраў Інстытут. У калекцыі, прысьвечанай эміграцыі (фонд меньшавіка Б. Нікалаеўскага), ёсьць паперы Ю. Сабалеўскага, І. Касяка. Матэрыялы, асьвятляючыя жыцьцё Заходняй Беларусі й данясеньні польскай выведкі, можна знайсьці ў паперах польскіх консульскіх установаў, што таксама захоўваюцца ў Гувэра.

У Сэнт Поле, Мінэсота, пры Ўнівэрсытэце Мінэсоты створаны архіў гісторыі іміграцыі, дзе таксама ёсьць дакумэнты па беларускай эміграцыі - прыватныя архівы В. Пануцэвіча, Ч. Будзькі, В. Жук-Грышкевіча, В. Пунтуса, Ю. Сабалеўскага. Д-р Вітаўт Кіпель перадаў туды архіў, сабраны пры напісаньні кнігі "Беларусы ў ЗША". Там-жа захоўваецца архіў газэты "Новае Рускае Слова" (фонды Сядых, Вайнбэрга, Аргуса) з карэспандэнцыяй, артыкуламі ды іншымі матэрыяламі, што датычацца беларускіх эмігрантаў.

Таксама варта ўзгадаць мястэчка Саясэт на Лёнг Айлендзе, там знаходзіцца архіў Праваслаўнай Царквы Амэрыкі, што мае матэрыялы пра фундатараў цэркваў, пра зямляцтвы пры цэрквах. ¨сьць там, напрыклад, вельмі цікавы архіў Расейскага Іміграцкага Дому з Іст 14-й вуліцы ў Мангэтане, які быў дапамаговаю ўстановаю для імігрантаў з Расейскай імпэрыі, што існавала на сродкі расейскіх царкоўных уладаў у 1908-1920 гадох. Матэрыялы гэтае установы, што зьмяшчаюць пэрсанальную інфармацыю пра эмігрантаў ды пра іхныя царкоўныя й зямляцкія арганізацыі, пераканаўча паказваюць, што так званая "расейская іміграцыя" была насамрэч беларуска-украінскаю, з дамінацыяй выхадцаў зь беларускіх губэрняў.

Ва Ўнівэрсытэце Масачусэтс у Амгэрсьце захоўваецца архіў польскага дасьледніка Юзафа Абрэмбскага, які ў бальшыні складаецца з этнаграфічных матэрыялаў, сабраных у міжваенны час на Піншчыне, у тым ліку шматлікія фатаздымкі, рукапісы недрукаваных працаў "Старажытнае Палесьсе" і "Школьная справа на Палесьсі".

У Таронце, у Нацыянальным Архіве Канады, існуе калекцыя, прысьвечаная беларускай эміграцыі. Яна створаная ў межах вялікага збору пра іміграцкія грамады, што існуюць у Канадзе. ¨сьць там і пашпарты БНР. Між іншага, туды перадаў свой архіў журналіст С. Хмара з умовай адкрыць яго праз 50 гадоў.

Каштоўныя матэрыялы маюць архівы БАЗА ў Нью ¨рку і Кліўлендзе, Беларускага Кангрэсовага Камітэту ў Нью Джэрзы, іншых беларускіх арганізацыяў; сховішчы дакумантаў пры беларускіх цэрквах у ЗША і Канадзе. Няменш каштоўнымі ёсьць прыватныя архівы, што сёньня знаходзяцца ў беларускіх людзей - актыўных дзеячоў эміграцыі або іхных нашчадкаў. Важна, каб гэтыя архівы з часам не згубіліся, каб былі захаваныя для дасьледчыкаў і для беларускага народу, які , мы верым, яшчэ ацэніць адданасьць і ахвярнасьць сваіх сыноў і дачок, што апынуліся на чужыне.

Ня ўсе архіўныя матэрыялы беларускай эміграцыі змогуць знайсьці прытулак у амэрыканскіх бібліятэках ды архівах. Перадача іх у Беларусь таксама ёсьць непрыймальным варыянтам на сёньнешні дзёнь. Выйсьцем з гэтага становішча мог-бы стаць Беларускі Дом, нашая грамадзка-культурная установа, што выконвала-б, акрамя ўсяго іншага, ролю культурніцкага прадстаўніка Беларусі ў Нью Ёрку і Амэрыцы, як годна робіць гэта Беларуская Бібліятэка і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане, дзе сабраныя багатыя архівы. Прыкладам таксама могуць быць украінскае Навуковае Таварыства імя Шаўчэнкі, польскі Інстытут Пілсудскага ды гэбрайскі Інстытут IBO, створаныя эмігрантамі без дзяржаўнай падтрымкі, пераважна на мазольныя грошы, сабраныя праз падпіску.

Што тычыцца кнігазбораў, найвялікшым сховішчам беларускіх кнігаў зьяўляюцца сёньня Бібліятэка Кангрэсу і Нью Ёрская Публічная Бібліятэка. Дзякуючы руплівасьці сп-ва Вітаўта й Зоры Кіпеляў, апошняя атрымала некалькі тысячаў асобнікаў беларускіх эміграцкіх друкаў. Рэдкія кнігі таксама ёсьць у Бібліятэцы Батлер пры Калюмбійскім Унівэрсытэце, ва Ўнівэрсытэце Індыяны ў Блумінгтоне. Значныя калекцыі беларускіх кнігаў пазьнейшага часу ёсьць амаль у кожным унівэрсытэце ЗША й Канады, што маюць катэдры славістыкі. Цікавыя спецыяльныя зборы маюць Бібліятэка Нацыянальнай Акадэміі Мэдычных Навук у Бэтэздзе (разнастайная беларуская мэдычная ды эпідэміялягічная літаратура, нават на ўзроўні раёнаў Беларусі) і Бібліятэка Геалягічнай службы Амэрыкі (літаратура па геалёгіі, карыснымі выкапнямі Беларусі).

Істотная колькасьць беларускіх кнігаў, асабліва выданьняў эміграцыі, захоўваецца пры беларускіх цэрквах і грамадзкіх арганізацыях. Часта - гэта рэшты накладу, колькасьцю па сотнях асобнікаў. У адрозьненьні ад архіваў, такія кнігі варта высылаць у Беларусь, у мясцовыя бібліятэкі й грамадзкія арганізацыі.

Надзённым стаіць пытаньне захаваньня кнігазбораў беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў. Тут таксама выйсьцем магло-б стаць набыцьцё Беларускага Дому і адкрыцьцё беларуская бібліятэка пры ім, на ўзор той-жа Беларускай Бібліятэкі ў Лёндане, або Бібліятэкі Навуковага Таварыства імя Шаўчэнкі ў Нью Ёрку.

**Віталь ЗАЙКА**

*Дадзены артыкул ня ёсьць вычарпальным апісаньнем беларускіх архіваў ды кнігазбораў. Аўтар і рэдакцыя "Беларуса" будуць шчыра вітаць заўвагі й дапаўненьні да артыкулу, а таксама думкі й прапановы наконт пытаньняў, паднятых тут.*

## БЕЛАРУСКІЯ СЫРЫ

*Заканчэньне з бачыны 13*

мелі ў Гарадзеі свае канторы. Неўзабаве ў Варшаве і Вільні, у Санкт-Пецярбургу і Маскве, у Кіеве і Адэсе ўсталявалася мода на літоўскія сыры з Гарадзеі й ваколіцаў - досыць падобныя на эдамер, але таньнейшыя - мода, якая пратрымалася некалькі дзесяцігодзьдзяў.

"Брахоцкія" ці літоўскія сыры былі шарападобнымі, як і эдамскія, вагою ад 2 да 4 кг, дасьпявалі досыць доўга - да 4 месяцаў, і вырабляліся як зь цвёрдаю скарынкаю (такія сыры зьверху парафінаваліся), так і з адмыслова падцьвілаю (гэтыя пакрываліся станіёлем - тонкаю алавяннаю фольгаю, бо алюмініевае у тыя часы не было). Выраб іх ніколі не быў "народным промыслам" - сыраварства на эўрапейскі кшталт было занадта складаным тэхналягічна ня толькі для парэформавага селяніна, але і для старасьвецкага шляхціча. Новыя сыры вырабляліся толькі прафэсыйнымі (ці паўпрафэсыйнымі) сыраварамі й прызначаліся выключна на збыт. Называючы іх літоўскімі, пакупнікі ў далёкіх сталіцах або ня ведалі, што яны паходзяць з Заходняе Беларусі, або ня бачылі розьніцы паміж ёю і этнічнаю Летувою - у часы, калі літоўскага сыраробства іолькі пачыналася назва Беларусь яшчэ не распаўсюдзілася так далёка на захад і не ахоплівала усю сёнешнюю Беларусь.

Менавіта Навагардзкі (а пазней і Менскі) паветы Менскае губэрні былі першымі асяродкамі новага сыраварства. У Віленскую і Ковенскую губэрні (а значыцца, і ў этнічную Летуву) сычужны літоўскі сыр прыйшоў менавіта з поўдня, зь Беларусі. Папулярнасьць літоўскага сыру зафіксаваў у сваім допісе ў санктпецярбурскі тыднёвік "Край" у 1888-м годзе Францішак Багушэвіч: Сёлетняя "Прамыслова-сельскагаспадарчая выстава" знаёміць з 270 экспанатамі, зь якіх… малочных прадуктаў 8 (пераважна сыр, так званы літоўскі, які 29 гадоў таму пачала вырабляць у Гарадзеі Брахоцкая).

Мусіць, ёсьць нейкая гістарычная заканамернасьць і лёгіка ў тым, што менавіта Навагрудчына - край Рэйтана і Касьцюшкі, Міцкевіча і Сыракомлі, першаю ў даўняй гістарычнай Літве ўкараніла ў сябе новую для нашага краю тэхналёгію ? У міжваеннай Заходняй Беларусі асноўнымі гатункамі фэрмэнтаванага сыру былі літоўскія і навагардзкія. Пад апошнімі меўся мясцовы аналяг швайцарскага сыру Emmental, які ў Беларусі ўкараніўся дзякуючы найперш славутай малачарні графаў Храптовічаў у Мураванцы каля Шчорсаў. У сярэдзіне 1930-х літоўскія каштавалі ад 1.50 (гурт) да 2.40 (раздроб) зл., а навагардзкія ад 1.80 да 2.40 зл. (Для параўнаньня: у Навагардзкім павеце ў 1934-м годзе быў усталяваны мінімальны месячны заробак 50 злотых). Наўрад ці бедны парабак пры панскім прыгнёце мог сабе дазволіць меней сыру ці іншых прадуктаў, чым ў незалежнай і кіраванай уласнага кшталту чыноўнікамі Беларусі.

Як сведчыць адзін даваенны польскі мэмуарыст, "сыр "Літоўскі" - мяккі, вільготны, востры - ў сваім класе ўпэўнена біў гумовы, моташны, ніякі галяндзкі сыр. Маляўнічы пятнічны кірмаш галяндзкіх сыроў у Алкмары насычаў зрок; польскі-ж сыр "Літоўскі" насычаў смак. Падсумоўваючы гісторыю літоўскага сыру, у 1930-х гадох польскі тэхноляг Ян Лічнерскі, дырэктар узорнае Малачарскае Школы ў Жэшуве, галоўнае ў міжваеннай Рэчы Паспалітай, пісаў: "На працягу некалькіх дзесяцігодзьдзяў літоўскае, а дакладней, беларускае сыраварства разьвілася досыць значна і пачаткова нават здабыло сабе добрую славу. На жаль, традыцыйныя заходнебеларускія сыры не перажылі прыйсця Другіх Саветаў...

Продкі многіх эмігрантаў з Заходняе Беларусі былі сыраварамі. Сваю сыраварню, напрыклад, трымала маці ведамае грамадзкай дзяячкі беларускае дыяспары ў ЗША Ірэны Каляды-Смірноў з Падкасоў'я Навагарадзкага раёну. Бацькі выдатнага польскага гісторыка Аляксандра Гейштара, былога прэзыдэнта Польскае акадэміі навук, варылі сыр у Пласковічах за Клецкам.

Карацей, сыраварства ў Заходняй Беларусі было прыкметнаю дэталлю эканамічнага ландшафту. Як піша Янка Брыль у "Золку, ўбачаным здалёк": "ў іншы бок, на захад, куды ад нас ніколі не езьдзілі, можна было паехаць ці навабранцам у войска, ці - "за палітыку" - у турму, а калі ўжо на заработкі, дык у маёнтак за сыравара або за парабка... Забытыя літоўскія і навагардзкія сыры - гэта ня проста эпізод эканамічнае гісторыі, але цэлы страчаны пласт нашае культуры. Але можа, нехта памятае штосьці пра забытыя масавай сьвядомасьцю традыцыі нашага сыраробства ? Тэхналягічныя ці эканамічныя падрабязнасьці ці проста нейкія фацэтныя эпізоды, зьвязаныя з сырам ? Накшталт гэтага, таксама з Брыля, зь "Ніжніх Байдуноў":

Дзядзька Алісей у маладосьці, да салдатчыны, працаваў у маёнтку пані Ядковай сыраварам. Праўда, сыры аднойчы былі не ўдаліся, і, каб зацерці сьляды, рагатун Рыўка зь яшчэ адным такім майстрам, не з нашае вёскі, узьехалі зь цяжкім возам на стары склеп, і ён праваліўся.

Адгукніцеся, хто памятае нешта пра мінулае нашага сыру ! Любая дробязь можа аказацца істотнаю дэталькаю мазаікі, якую яшчэ магчыма сабраць. Пішыце аўтару артыкула на адрас:

**Алесь Белы**
***зав. Рабочы, 2***
***Навінкі, Менскі р-н,***
***223059 Беларусь***
***bely@infonet.by***

# Новыя кнігі ✖ Рэцэнзіі

Летась "Беларус" пісаў пра першую манаграфію Алеся Пашкевіча "Зваротныя дарогі" (нумар 470, сакавік 2002, матэрыял Эдварда Людовіча). З таго часу пачынаючы літаратуразнаўца вырас на Старшыню Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі (самага маладога за ўсю гісторыю гэтае арганізацыі), выдаў гістарычны раман пра Слуцкае паўстаньне з галоўным героем, прататыпам якога ёсьць наш паэта Алесь Змагар, ды выдрукаваў новую кнігу на эміграцыйную тэматыку - "Драматургія беларускага замежжа ХХ-га стагодзьдзя".

Праўда, назваць выданьне кнігаю не зусім выпадае, бо ў брашуры ўсяго 40 бачынак. Зрэшты, не памерам вартасныя тэксты. І шкадуеш аб проста мізэрным, нават як на сёньняшнія часы, накладзе - усяго 70 асобнікаў. Напэўна, выкладзены у сеціве, прыкладам, на Беларускай Палічцы, тэкст займеў-бы большую колькасьць чытачоў, як у падобным - кніжным - варыяньце. Прынамсі, адшукаць выданьне ў Менску не атрымалася, і выключна дзякуючы ласцы адзінага ўладальніка асобніка на ўсе Злучаны Штаты кніга трапіла ў працоўню рэцэнзента.

Наагул, выдавецтва Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, дзе пабачыла сьвет гэтая публікатка, выпускае цікавыя кнігі сваіх выкладчыкаў, але тыя праз малыя наклады фактычна не існуюць у навуковым кантэксце. Гэтак, кніга Т. Шамякінай "Беларуская класічная літаратура і міфалогія" мае ўсяго 100 асобнікаў. Падобным накладам выдрукаваныя кнігі яшчэ аднаго выкладчыка БДУ В. Максімовіча - "Паэтычная міфатворчасьць Янкі Купалы пачатку



XX стагоддзя", "Ідэйна-эстэтычныя асновы беларускага мадэрнізму", "Беларускі мадэрнізм: эстэтычная самаідэнтыфікацыя літаратуры пачатку XX стагоддзя". Верагодна, менавіта праз аналягічны мізэрны наклад не зьяўляецца магчымым адшукаць яшчэ адную кнігу А. Пашкевіча, таксама выдадзеную БДУ летась, - "Канцэпцыя нацыянальнага быцьця ў беларускай літаратуры. Проза замежжа XX стагоддзя".

Гэтыя 40 бачынак, натуральна, ня ў стане ахапіць усю драматургію беларускага замежжа, як і ня ёсьць першым словам пра яе, але выданьне мае некалькі істотных адметнасьцяў. Падзагаловак кнігі - вучэбны дапаможнік, які, як можна прачытаць на тытульнай бачыне, "абмеркаваны й рэкамендаваны да друку Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва (Нью Ёрк) і кафедрай беларускай літаратуры XX стагоддзя філялагічнага факультэту БДУ". Наўрад ці ў галоўным унівэрсытэце краіны сёньня існуе курс па гісторыі літаратуры эміграцыі, але нават калі тое ўсяго толькі спэцкурс - зьява радасная.

Прыемна, што аўтар кнігі ня толькі выкладчык, які мае магчымасьць у сваіх лекцыях расказваць студэнтам пра ўсё яшчэ малаведамую частку нашае літаратуры, але й старшыня Саюзу Пісьменьнікаў. Ня маючы багата ілюзыяў, усё-ж хочацца спадзявацца, што й палітыка гэтае арганізацыі таксама зьменіцца, што мо адродзіцца заснаваная некалі Ў. Арловым сэрыя "Галасы беларускага замежжа", што зноўку наладзяцца кантакты паміж мэтраполіяй і дыяспарай. Запрашалі-ж на пачатку 90-х навукоўцаў з эміграцыі чытаць лекцыі ў беларускіх вычэльнях!

Да самога-ж аўтарскага тэксту могуць быць асобныя заўвагі, удакладненьні, дапаўненьні (прыкладам, абыйдзены гаворкаю драматычныя практыкаваньні М. Сяднёва), але самая праца, спроба разглядаць творчасьць дыяспары ў агульным кантэксьце беларускай літаратуры, повязь гісторыі эміграцыі першых хваляў пачатку стагодзьдзя й хвалі паваеннай, разуменьне каштоўнасьці даробку Янкі Юхнаўца - факт бясспрэчна станоўчы, за які хочацца бачыць плённы працяг.

**Чытач**

---

***The Reconstruction of Nations: Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus, 1569-1999*** **by Timothy Snyder**

Зусім нядаўна ў выдавецтве Ельскага Ўнівэрсытэту выйшла кніга Тыматы Снайдара "Адбудова нацыяў: Польшча, Украіна, Літва, Беларусь, 1569-1999." Кніга складаецца з трох частак, у якіх аўтар адпаведна дасьледуе ўзьнікненьне і разьвіцьцё нацыянальных рухаў на абшары гістарычнай Літвы (сёнешнія Беларусь і Летува) і Галіцыі й Валыні (Заходняя Ўкраіна), а затым дае агляд сёнешняга стану й перспэктываў нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі, Летувы, Украіны, Польшчы, а таксама закранае пытаньні ўзаемадзеяньня паміж імі.




У першым разьдзеле, напасрэдна зьвязаным з Беларусьсю, Т. Снайдар разглядае ўзьнікненьне й разьвіцьцё нацыяналізмаў летувіскага, беларускага і польскага праз прызму спадчыны Вялікага Княства Літоўскага і праз творчасьць Адама Міцкевіча, будучы аповед вакол лёсу Вільні. Ён адзначае, што беларускі рух заставаўся найбольш прыхільным да гэтай гістарычнай спадчыны, меў усе падставы называцца спадкаемцам і, здавалася-б, як найбольш лічэбна вялікі этнас на разглядаемым абшары, мусіў прэтэндаваць на першынство сярод іншых народаў. Аднак адбылося дакладна наадварот, і ў сваёй працы аўтар дае спробу аналізу прычынаў "беларускай нацыянальнай паразы" - як ён называе праблемы беларускага нацыянальнага руху - у параўнаньні да посьпехаў польскага й летувіскага нацыянальных рухаў, далучаючы сытуацыю на сёнешні дзень.

Снайдар дае найбольш цікавы мэтадалягічна пункт гледжаньня на беларускія справы й закранае праблему значна глыбей, чымся ўсе ведамыя аўтару гэтых радкоў інтэрпрэтацыі замежных ды, бадай што, і беларускіх гісторыкаў ды палітолягаў. Жыва й зацікаўлена напісаная, кніга добра чытаецца. Аўтар прыцягвае для свайго аповяду, акрамя гістарычных фактаў, таксама факты культурніцкія, што ў сымбалічны спосаб адбіваюць гістарычныя падзеі й цудоўна ілюструюць аўтарскую тэзу - як, прыкладам, гісторыя з пабудовай помніка Міцкевічу ў Вільні. Снайдар дае кароткія, але выразныя партрэты ключавых асобаў беларускай гісторыі й беларускага руху - Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, А. Луцкевіча, Б. Тарашкевіча. Шмат зь якімі высновамі аўтара ня можна пагадзіцца, як, прыкладам, цьверджаньнем, што сучасная беларуская нацыя яшчэ не паўстала (у заходнім, дзяржаўніцкім, сэнсе). Аднак аўтарская пазыцыя прыхільная да беларускай справы й трактуе ее са стрыманым аптымізмам: "Ня гледзячы на тое, што Лукашэнка быў эксцэнтрычным дыктатарам, які ненавідзеў беларускі патрыятызм і абяцаў зьяднаць свой край з Расеяй, ягонае кіраваньне фактычна захавала суверэнную беларускую дзяржаву. Упершыню пакаленьне маладых беларусаў вырасла ў незалежнай Беларусі, а падарожнікі езьдзілі з беларускімі пашпартамі. Упершыню беларускія нацыянальныя актывісты бачаць дзяржаву, якую яны могуць прыстасаваць для нараджаючайся нацыі. Незалежныя Летува, Польшча і Ўкраіна прыхільна ставяцца да беларускай дзяржаўнасьці й пры адсутнасьці рашучага ўмяшаньня Расеі, зьяўленьне беларускай нацыі зусім ня выключанае".

І яшчэ: "Сучасны беларускі нацыяналізм, калі ён зьявіцца, напэўна, уключыць у сябе мітычную канцэпцыю Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая старая ідэя мусіць быць рэканструяваная з улікам праваслаўнай веры й савецкай гістарычнай памяці, што існуюць сярод большасьці беларускага насельніцтва. Гэткі сынтэз, як і зьяўленьне Адама Міцкевіча ў ролі беларускага нацыяналістага, будуць знакам таго, што беларуская нацыянальная ідэя павярнулася тварам да сучаснасьці".

Безумоўна, гэтая кніга ня ёсьць і ня можа быць першым чытаньнем для людзей, зацікаўленых пытаньнямі гісторыі й нацыянальнага разьвіцьця Беларусі. Але для крытычнага і ўважлівага чытача яна можа даць шмат матэрыялу для роздуму, а можа - хто ведае - і новых ідэяў.

**Віталь ЗАЙКА**

---

# БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ й МАСТАЦТВА

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗТВА

**Высокашаноўнае спадарства!**

Гэтым Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва даводзіць да ведама, што рэдакцыйная праца над беларуска-ангельскім слоўнікам знаходзіцца ў апошняй стадыі перагляду/карэкты.

Слоўнік налічвае каля 60 000 лексычных адзінак (каля 1000 старонак), што робіць яго вызначальным у беларускім слоўніцтве. Укладальніца слоўнікавае картатэкі спадарыня Валянтына Пашкевіч, а таксама рэдакцыйная камісыя БІНіМу ў складзе Зоры Кіпель, Янкі Запрудніка, Міхася Бахара, Томаса Бэрда, Вітаўта Кіпеля, Аллы Орса-Романо, пастыра Юры Рапэцкага, Алекса Сільвановіча, Васіля Русака (ужо нябожчыка), Юры Станкевіча, Зьміцера Саўкі, Джона Станлей, Антона Шукелойця ды Сяргея Шупы з прыемнасьцю і гонарам гатовыя перадаць вынік блізу дваццацігадовае працы ў карыстаньне грамадзтву.

Наперадзе цяпер - друк слоўніка. Зробленыя запытаньні ў некалькі выдавецтваў у ЗША, Беластоку і ў Беларусі аб коштах друку. Паколькі мяркуецца вялікі тыраж слоўніка, каб шырока распаўсюдзіць яго ў Беларусі, відавочна, будуць і вялікія выдаткі на друк. Наклад плянуецца ў некалькі тысячаў, а друк, паводле пачатковых ацэнкаў, будзе парадку некалькі дзесяткаў тысячаў даляраў. Выданьне слоўніка мяркуецца ажыцьцёвіць коштам падпіскі й ахвяраваньняў беларускай грамадзкасьці ды дапамогі беларускіх арганізацыяў.

Дадзены ліст-зварот да грамадзтва аб фінансавай дапамозе на друк-выданьне слоўніка. Відавочна, што ўсім зразумелая важнасьць гэтага выданьня ды інтэлектуальная трагедыя Бацькаўшчыны, якая да гэтага часу ня мае гэтак патрэбных вялікіх замежна-беларускіх слоўнікаў.

Да рэчы, як аднадушна ўважаюць ініцыятары й арганізатары гэтага выданьня, сьпіс спонсараў і ахвярадаўцаў, як асобаў, гэтак і арганізацыяў-ахвяравальнікаў панад 250 даляраў будзе выдрукаваны ў адпаведным месцы ў слоўніку.

Дык у чарговы раз Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва спадзяецца на грамадзкую шчодрасьць. Прысылайце, калі ласка, Вашыя ахвяраваньні на друк ангельска-беларускага слоўніка.

Ахвяраваньні на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:

| | |
|---|---|
| **Вольга Качан у памяць мужа Аркадзя Качана** | **15 000 дал.** |
| **Міхась Лужынскі** | **1 000 дал.** |

***Управа БІНіМу***

Ахвяраваньні на выданьне слоўніка дасылайце на адрас:

***Belarusan Institute of Arts and Sciiences***
***1797 Buttonwood Ave***
***Toms River, NJ 08755 Attn: Vitaut Kipel***

# КУПАЛЬЛЕ

**Дарагія беларусы, давайце разам адзначым нашую прыгожую традыцыю Купальля і правядзём тры цудоўныя дні на прыродзе.**

**Калі:** 27- 29 чэрвеня 2003-га году.

**Дзе:** Рэзэрвацыя Ward Pound Ridge ў Cross River, NY

**Транспарт:** Тыя, хто ня мае аўта могуць паехаць цягнікам са станцыі Grand Central да прыпынку Katonah. Гэта 45 хвілін язды ад Мангэтану па галіне Harlem Line.

**Кошт:** **$25** за чалавека за дзьве ночы. Чэкі выпісвайце на ***Mr. & Mrs. Ryzy***. На чэку пазначце ***"Купальле"***. Вашыя замовы й аплату шліце, калі ласка, на адрас:
***Piotr & Lena Ryzy***
***20 Old Locust Ave***
***Courtland Manor, NY 10567***

**Што будзе:** традыцыйныя купальскія песьні й танцы (будзем вітаць вашыя ідэі), пляценьне вянкоў і пусканьне іх па рачцы, шпацыроўкі пад месяцам ля ракі, спартовыя гульні, гатаваньне страваў (прыносьце сваю ежу, грылі будуць).

**Кантакты:** **Лена ці Пётра Рыжы,** тэл. **(914) 734-8115,**
**Ryzy2@aol.com** ці **LenaBelarus@aol.com**

Захапіце з сабою спальныя мяшкі, палаткі ды іншае лягернае абсталяваньне, ежу, напоі і т. п., а таксама дастатковa фотастужкі, каб хапіла на ўсе дні адпачынку.

Важна, каб арганізатары атрымалі Вашую замову і аплату да 15 траўня, каб зарэзэрваваць неабходную колькасьць месцаў у парку.

Каб зрабіць замову, запоўніце і дашліце купон, надрукаваны ніжэй.

**Вашае імя** ____________________

**Колькасьць людзей (разам зь дзецьмі)** ____________________

**$25 за кожнага чалавека, усяго ўкладзена** ____________________

**Ваш нумар тэлефона** ____________________

**Ваш адрас** ____________________

**Ці трэба Вас забіраць з прыпынку цягніка?** ____________________

**Ці хочаце, каб Вам даслалі мапу з інструкцыяй, як лепш даехаць да парку на аўта?** ____________________

**Вітаем з 75-годзьдзем адданага грамадзкага працаўніка, пачынальніка арганізацыяў БАЗА, Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, шматгадовага настаўніка беларускіх дапаўняльных школаў**

**сп. ЮРКУ СТАНКЕВІЧА**

***Управа БАЗА, БІНіМ, блізкія сябры***

**З 80-гадовым юбілеем вітаем заслужанага грамадзкага і рэлігійнага дзеяча**

**сп. ВАСІЛЯ ШЧЭЦЬКУ**

***Управа БАЗА, БІНіМ, прыяцелі, сябры, прыхаджане прыходу Сьв. К. Тураўскага ў Рычманд Гіл***

## Пошук сваякоў



Дапамажыце знайсьці нашчадкаў двух братоў, якія выехалі ў ЗША ў 1919-м годзе зь мястэчка Шэметава Сьвянцянскага ўезду Віленскай губэрніі. Звалі іх:
- **Кумішча Сямён** 1881 г. нарадж. і
- **Кумішча Казімір** 1883 г. нарадж.

Іх бацька быў Пётр, маці - Ганна.

Сваякоў расшуквае Эдуард Кумішча, сын малодшага брата гэтае сям'і Францішка. Да пачатку Другой Сусьветнай вайны браты трымалі сувязь са сваім малодшым братам у Заходняй Беларусі праз перапіску, але з прыходам Саветаў сувязь перарвалася.

Калі Вы можаце дапамагчы, то пішыце на адрас:
***Кумішча Эдуард Францавіч***
***вул. Ташкенцкая, 26-2-51***
***г. Менск - 66***
***BELARUS***
***Тэл. (375) 17 241-60-98***
***E-mail: helenam@tut.by***

*Выказваем падзяку М. Швэдзюку, Ю. Весялкоўскаму, М. Раецкаму У. Жыгалка за дасланыя матэрыялы.*

**Гарадзенскі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт імя Янкі Купалы дае летнюю праграму курсаў беларускай і расейскай моваў, а таксама праграму культурных дасьледаваньняў беларусікі. Па расцэнку курсаў і дэталі праграмаў зварачайцеся на адрас: *Center for International Education, Grodno State University, Ozheshko Street, 22, 230023, Grodno, BELARUS tel: (+375) 152-443399, fax: (+375) 17-2108599, E-mail: lang@mail.grsu.grodno.by ці cie@grsu.grodno.by***

**Вывучэньне беларускай мовы ды знаёмства з культураю Беларусі прадбачыцца ў навучальных праграмах амэрыканскага міжнароднага навучаньня. Па інфармацыю зьвяртайцеся па адрасу: *Outbound Programs, American Council for International Education: ACTR/ACCELS, 1776 Massachusetts Ave. NW Ste. 700 Washington, DC 20036, tel: (202) 833-7522, E-mail: outbound@actr.org***

**Выказваем спачуваньне Лене РЫЖАЙ (з дому ПАДДУБНАЯ) з прычыны сьмерці бацькі.**

***Родныя***

Шчыра дзякуем усім, хто даслалі ў рэдакцыю віншаваньні з нагоды 85-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

К. і Я. Вініцкія .......100
М. Сагановіч .........100
М. Смаршчок ........100
М. Баяроўскі . анг. ф. . . .50
Б. Паўк ..............51
Беларускі Цэнтар у Саўт Рывэры .........50
А. Брушкевіч .........50
М. і К. Верабей ........50
Я. Завістовіч ..........50
К. Маталыцкі ..........50
Н. Рагуля .............50
Г. і Ў. Русак ...........50
М. Русак .............50
А. Субота .............50
Л. Шурак .............50
А. Міцкевіч ...........40
А. Нікалаенка .........40
М. Сьнежка ...........40
М. Каранеўскі .........30
Р. Кардонскі ..........30
А. Кацярыніч ..........30
А. Колбун .............30
Т. Красоўская .........30
Я. Крэсла .............30
А. Лістоўская .........30
Я. Сіманюк ...........30
В. Яскевіч ...........30
І. Завістовіч ..........25
П. Грыгальчык .........10

**СПРАВАЗДАЧА ад М. Лужынскага з Аўстраліі:**

М. Лужынскі аўст. $ .200
Э. і Л. Парэцкія .......80
Л. Бакуновіч ..........60
В. Нарушэвіч ..........60
Г. Падгайская .........60
В. і О. Русак ..........60
В. Ліпскі .............60
Я. Шкода .............60
М. Антух .............60

**АХВЯРАВАНЬНІ, сабраныя на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью ¨рку:**

Ю. Лапіцкі ...........40
А. Сільвановіч ........30
В. Станкевіч ..........30
М. і К. Верабей ........20
Я. Запруднік ..........20
А. Міцкевіч ...........20
Д. Моўчан ............20
Л. і П. Рыжы ..........20
А. Субота .............20
Уладыка Юры ..........20
Ю. Касьцюкевіч ........16
Ананімна .............10
С. Трыгубовіч .........10

**У памяць Алега Дубягі:**

М. Каранеўскі .........20

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна:**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Падпіска $30 на год.**
**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by**
**BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**
**Make checks payable to BIELARUS**

**Рэдагуе калегія.**
Адказны рэдактар
**Марат Клакоцкі**
Падпіска
**Сяргей Трыгубовіч**

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***

**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS.
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***